

"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 3 (30), 2001 ПАКРОЎ



## Пілігрымка з Віцебску ў Полацак

Чарговая пілігрымка з Віцебску ў Полацак за праслаўленьне Полацкіх мучанікаў адбылася сёлета з 11 па 15 ліпеня. Была яна не такая шматлікая, як мінулагодняя — удзел у ёй бралі больш за 70 пілігрымаў, якія прадстаўлялі большасьць грэка-каталіцкіх парафіяў Беларусі. Былі таксама і госьці — семінарысты і манахіні з Украіны. Ужо амаль перад самым Полацкам далучыўся да пілігрымаў ігумен манахаў-студытаў айцец Венядыкт (Алексійчук), добра вядомы многім па шматгадовай працы ў Беларусі.

Падчас свайго шляху пілігрымы разважалі над тым, кім зьяўляецца Ісус Хрыстос у нашым жыцьці. Дапамагалі ў гэтым штодзённая сьв. Літургія, споведзь, а таксама малітоўныя спатканьні, якія праводзілі беларускія і ўкраінскія семінарысты. Не бракавала падчас шляху і сьпеваў — маладзёвых, пад гітару, і тых, што сьпявалі яшчэ нашыя продкі-уніяты.

Трохі іншы ў гэтым годзе быў маршрут пілігрымкі. Два першыя начлегі былі ў тых самых вёсках, што і шэсьць гадоў таму (падчас 1-ае пілігрымкі). Тут людзі сустракалі грэка-каталікоў з вялікай цікавасьцю. На вечаровыя сустрэчы прыходзілі і старыя, і малыя.

У Шуміліна грэка-каталікоў гасьцінна сустракалі мясцовыя рыма-каталікі. У парафіяльнай капліцы пілігрымы ўшанавалі Маці Божую сьпевам Акафісту, пасьля гэтага гаспадары пачаставалі гасьцей гарбатаю. Таксама й у мястэчку Обаль на сьв. Літургію прыйшлі вернікі з рыма-каталіцкай парафіі.

Працяг на с. 6 ⇨















• *Адметнай падзеяй сёлетняй пілігрымкі з Віцебска ў Полацак стаў дзень 15 ліпеня, калі брат Юрась Камлыга з Полацкага студыцкага манастыра прыняў Малую Схіму.*



# Казаньне Сьвятога Айца Яна Паўла II

## падчас сьвятой Літургії ў візантыйскім абрадзе ў Кіеве, 25 чэрвеня 2001 году



**1** ***«Як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, так і яны няхай будуць у Нас адно, каб паверыў сьвет, што Ты паслаў Мяне» (Ян 17, 21).***

Словы Евангельля ад сьвятога Яна, якія толькі што пачулі, вяртаюць нас думкаю і сэрцам да сьвятліцы Тайнае Вячэры, да месца Апошняе Вячэры, дзе перад сваёй Мукай Ісус маліўся Айцу за Апосталаў. Толькі што Ён даручыў Ім Найсьвяцейшую Еўхарыстыю і прызначыў іх пасланцамі Новага Запавету, прадаўжальнікамі Ягонага пасланьніцтва для збаўленьня чалавецтва.

Словы Збаўцы выказваюць палкае жаданьне выбавіць чалавецтва ад духу і мысьленьня гэтага сьвету. Адначасова тут утрымліваецца пераказаньне, што збаўленьне вымагае той «еднасьці», якая на ўзор жыцьця Найсьвятой Тройцы, павінна быць адзнакаю штодзённага досьведу і рашэньняў усіх Ягоных вучняў.



**2** ***«Ut unum sint! — Каб усе былі адно!» (Ян 17, 21).*** Сьвятліца Тайнае Вячэры — гэта месца еднасьці, якая нараджаецца з любові. Гэта месца пасланьніцтва: «...каб сьвет паверыў!» (Ян 17, 21). Немажліва назваць аўтэнтычнаю евангелізацыю бяз поўнае братэрскае еднасьці. Таму Ўваскрослы Госпад, які ўвечары першага дня па шабаце зьяўляецца сваім Апосталам у сьвятліцы Тайнай Вячэры, зноў пацьвярджае цесную сувязь паміж пасланьніцтвам і еднасьцю, кажучы ім: «Як Айцец Мяне паслаў, так і Я вас пасылаю» (Ян 20, 21) і дадае: «Прыміце Духа Сьвятога! Каму адпусьціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім пакінеце, на тым застануцца» (Ян 20, 22-23).

І зноў, у сьвятліцы Тайнае Вячэры, у дзень Пяцідзясятніцы, Апосталы, сабраныя разам з Марыяй, Маці Ісуса, прымаюць Духа Сьвятога, які зьявіўся «як бы ад павеву моцнага ветру, і напоўніў увесь дом, дзе яны былі. І паказаліся ім языкі падзеленыя, як бы вогненныя, і апусьціліся па адным на кожным з іх» (Дз 2, 3). З дару Ўваскрослага Госпада нараджаецца новае чалавецтва, Царква, у якой еднасьць перамагае падзелы і расьцярушанасьць, запачаткаваныя духам гэтага сьвету, сымбалем якіх зьяўляецца біблійны апавед пра Вавілонскую вежу: «... кожны чуў, што яны гавораць на ягонай мове» (Дз 2, 6). Стаўшыся адно праз дзеяньне Суцяшальніка, вучні робяцца прыкладаю дыялогу і міру ды распачынаюць місію евангелізацыі народаў.

**3** ***«Каб усе былі адно!» Гэта ёсьць таямніца Царквы, якой прагнуў Хрыстос.*** Еднасьць, заснаваная на аб'яўленай Праўдзе і на Любові, не пагарджае чалавекам, яго культурай і гісторыяй, але ўключае яе ў супольнасьць Сьвятой Тройцы, дзе ўсё, што пасапраўднаму чалавечае, падтрымліваецца і ўзбагачаецца. Менавіта гэтую таямніцу выяўляе таксама і гэтая Літургія, якую разам служаць біскупы і сьвятары ўсходняй і лацінскай традыцыяў. У новым чалавецтве, што нараджаецца з сэрца Айца нябеснага, і ў якім Хрыстос — Галава і якое жыве з дару Духа Сьвятога, суіснуе багацьце традыцыяў, абрадаў, кананічных дысцыплінаў, якія, ня шкодзячы еднасьці Цела Хрыстова, узбагачаюць яе сваімі дарамі. У ёй стала паўтараецца цуд Пяцідзясятніцы: у еднасьці, народжанай на Вышынях, людзі розных моваў, традыцыяў і культураў пачуваюцца зьяднанымі ў вызнаньні аднае веры.

З такімі пачуцьцямі вітаю ўсіх тут прысутных. Асабліва вітаю Кардынала Любаміра Гузара, Вярхоўнага Архібіскупа Львоўскага для ўкраінцаў і Мар'яна Яворскага, Архібіскупа Львоўскага для вернікаў лацінскага абраду разам з біскупамі абодвух абрадаў, сьвятарамі і вернікамі вітаю ўсіх членаў царкоўнай супольнасьці, якая ў самабытны спосаб сьведчыць пра сваё разнастайнае багацьце на гэтай Зямлі, дзе сустрэліся ўсходняя і заходняя традыцыі. Гэтае нашае суіснаваньне ў любові павінна стацца ўзорам еднасьці, што зьяўляецца складовай часткай падставовага плюралізму і гарантаванага Біскупам Рыму, Наступнікам сьвятога Апостала Пятра.

**4** ***Ад самага пачатку ваша Царква магла карыстацца з разнастайных культурных сувязяў і з хрысьціянскіх сьведчаньняў розная паходжаньня.*** Згодна з традыцыяй, на зары хрысьціянства сам Апостал Андрэй, калі наведаў гэтыя мясьціны, дзе мы сёньня сабраліся, гаварыў пра іх сьвятасьць. Апавядаюць, што аглядаючы скалістыя берагі Дняпра, ён бласлявіў Кіеўскія землі і сказаў: «На гэтых узгор'ях зазьзяе слава Божая». Гэтак ён прадказаў навяртаньне ў хрысьціянскую веру вялікага кіеўскага князя і сьвятога хрысьціцеля Ўладзіміра, дзякуючы якому Днепр стаў як «Ярдан Украіны», а сталіца Кіеў — «новым Ерусалімам», маці славянскага хрысьціянства ва Ўсходняй Еўропе. Сколькі ж сьведчаньняў сьвятасьці было ў вашым Краі з часу яго Хрышчэньня! Сярод першых зьявіліся кіеўскія мучанікі, князі Барыс і Глеб, якіх вы называеце «сьвятамучанікамі», бо прынялі мучаніцтва ад рук брата і не ўзьнялі супраць яго зброі. Гэта яны акрэсьлілі духоўнае аблічча Кіеўскай Царквы, дзе мучаніцтва ў імя братняй любові, у імя хрысьціянскай еднасьці, выявілася як сапраўдная і ўсеабдымная харызма. Нядаўняя мінуўшчына гэта таксама яскрава пацьвердзіла.

**5** ***«Адно Цела і адзін Дух, як вы і пакліканы да аднае надзеі вашага заклікання» (Эф 4, 4).*** Хіба гісторыя мучаніцтва вашае Царквы ня ёсьць зьдзяйсьненьнем слова Апостала Паўла, якія толькі што пачулі? Ён напісаў да хрысьціянаў Эфэсу: «Дык вось я, вязень у Госпадзе, малю вас, каб паступалі дастойна заклiку, якім вы пакліканы, з усёй пакорлівай мудрасьцю і лагоднасьцю, з доўгацярплівасьцю, у любові трымаючы адзін аднаго, імкнучыся захоўваць адзінства Духа ў саюзе міру» (Эф 4, 1-3).

Цяпер, пасьля атрыманьня незалежнасьці, пачаўся новы, шматабяцальны перыяд, які абавязвае грамадзянаў паставіць сабе за мэту «будаваць родную хату», Украіну, як любіў нагадваць Мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі. Вось ужо дзесяць гадоў гэтая краіна — свабодная і незалежная дзяржава. Гэтае дзесяцігоддзе выявіла, што, не зважаючы на спакусы беззаконьня і карупцыі, яе духоўныя карані ёсьць моцныя. Выказваю маё шчырае пажаданьне, каб Украіна працягвала жывіцца ідэаламі асабістае маралі, грамадзкага і царкоўнага служэньня агульнаму дабру, годнасьці і самаахвярнасьці, не забываючы пра дар дзесяці Божых прыказаньняў. Жыццяздольнасьць ейнае веры і адраджэнская моц яе Царквы вартыя зьдзіўленьня: карані мінулага яе сталіся гарантам надзеі на будучыню.

Найдарагія мае браты і сёстры! Сіла Гасподняя, якая падтрымлівала ваш Край,— гэта прыемная сіла, што патрабуе чалавечага спрыяньня. Яна дзейнічае праз ваш варты захапленьня шчыры адказ на запрашэньне Хрыста.

У гэтую асаблівую хвіліну прагну ўшанаваць тых, якія ўзьняліся вышэй за нас у веры і, не зважаючы на перанесеныя вялікія пакуты, зьбераглі Сьвятую Традыцыю. Няхай іхні сьветлы прыклад дасьць нам адвагі. Споўненыя Духам Хрыстовым, імкніцеся будаваць вашую будучыню згодна з Ягоным запаветам любові.

**6** ***Калі ўзгадваеш шматвяковую вернасьць вашага краю Евангельлю, амаль інстынктыўна вяртаешся ў сьвятліцу Тайнай Вячэры і да словаў, якія сказаў Хрыстос напярэдадні Сваёй Мукі.***

Царква ўвесь час зьвяртаецца да сьвятліцы Тайнай Вячэры, дзе яна нарадзілася і дзе распачалася яе місія. Царква адчувае патрэбу вяртацца туды, дзе Апосталы, пасьля Ўваскрасеньня Гасподняга, былі споўненыя Духам Сьвятым,атрымаўшы дар моваў, каб абвяшчаць пасярод народаў і нацыяў сьвету вялікія справы Божыя (пар. Дз 2, 11). Сёньня мы прагнем духоўна вярнуцца да сьвятліцы Тайнай Вячэры, каб лепей зразумець падставы еднасьці і пасланьніцтва, якія прывялі аж сюды, на берагі Дняпра, сьмелых вестуноў Евангельля, каб сярод мноства моваў не згубілася і мова жыхароў Русі.

«Ut unum sint!» (Каб усе былі адно!). Мы хочам далучыцца да малітвы Госпада за еднасьць сваіх вучняў. Гэта шчыры заклік да еднасьці хрысьціянаў. Гэта безупынная малітва, якая нясецца з сэрцаў пакорных і гатовых слухаць, разумець, і рупліва дзейнічаць, каб магло зьдзейсьніцца жаданьне Хрыста. З гэтае Зямлі, што асьвячана крывёю незьлічоных мучанікаў, узношу я разам з вамі сваю малітву да Госпада, каб усе хрысьціяне зноў сталіся «адно», згодна з жаданьнем Ісуса ў сьвятліцы Тайнае Вячэры. Няхай хрысьціяне трэцяга тысячагоддзя паўстануць перад сьветам з адным сэрцам і з адною душою. Гэтае палкае жаданьне давяраю Маці Ісуса, якая ад самага пачатку моліцца разам з усёй Царквой і за ўсю Царкву. Няхай Яна, як у сьвятліцы Тайнае Вячэры, падтрымлівае нас Сваім заступніцтвам. Няхай вядзе нас шляхам паяднаньня і еднасьці, каб у кожнай частцы зямлі хрысьціяне маглі нарэшце разам абвяшчаць Хрыста і Ягоную добрую вестку збаўленьня ўсім людзям трэцяга тысячагоддзя.



• *Кіеў, 25.06.2001. Сьв. Літургія ў візантыйскім абрадзе.*



# Пакроў Багародзіцы

*«Бо дзіця нарадзілася нам — Сын дадзены нам: уладарства на плячах у Яго, і дадуць імя Яму: Дзівосны, Дарадца, Бог Моцны, Бацька вечнасьці, Князь сьвету».*
*(Кніга прарока Ісаі. 9, 6. Стары Запавет)*

Пакроў... Каб лягчэй было адарваць ад зямлі да яго позірк, на хвіліну схілім галовы перад адным пытаньнем: «Як маці суцешыць немаўлятка, калі яно разглядае на сваіх далонях наш сусьвет у вечнасьці?» Або як суцешыць Збавіцеля, якому прыгатаваны крыж, калі Ён ужо адчувае вечныя пакуты тых, што адхіляць збаўленьне? Ці як суцешыць Сына Божага, які ў Айцы і Айцец у ім, у якога ня толькі галактыкі зьлічаны, але і валасы ў кожнага з нас; і каму страшны суд — існая падзея. Як?!

Пакроў... Адзіная чыстая і блаславёная, у неба ўзятая з душой і целам, покрывам ЯКОЙ глыбіні любові ахінула сусьвет, каб дасягнуць да зацьвярдзелых сэрцаў? Покрывам ЯКОЙ чысьціні асьвятліла душы пад смогам грахоў? Покрывам ЯКОЙ сьвятасьці наблізіла род чалавечы да Бога?

Сын Чалавечы. Ня раз чытаем гэтыя словы Ісуса Хрыста на працягу Евангельля. Безумоўна, Сыну Божаму ня дзіва, што Ён Сын Божы, але таксама Ён Сын чалавечы. Так, чалавецтва мае Сына Божага. Мы ведаем, як адплацілі свайму Творцу, у што ператварылі Божы вобраз, падабенства; за што нам такая пашана? Любоў заслугаў не патрабуе. Яна ёсьць. І сярод чалавецтва зазьзяла Маці Божага Сына. У Бога, «Бога жывых», факт мацярынства ня выкрэсьліць, таму Маці Ісуса Хрыста заўжды дзеля Яго — Маці, надзея нам, што мы ўсё ж дзеці Божыя.

А за чалавечую істоту, што хітра пабліскваючы вачыма, кажа: «Дзева Марыя нічым ня лепшая за мяне, бо і яна чалавек», напэўна ніхто, акрамя Багародзіцы, ня ўмоліць Госпада нашага Ісуса Хрыста сьцярпець такую абразу ад людзей, бо Яна сама з чалавечага роду. З роду, да якога з вялікай ласкі Божай належаць усе людзі, нават тыя, хто лічыць свой род ад малпаў.

Пакроў... А мы ўсе: «Пакроў — гэта нешта пра кароў, калі звоняць у царкве». Хоць і тут ёсьць свая доля праўды. Не аднойчы зьяўлялася Дзева Марыя маленькім пастушкам — і ў нашых Жыровіцах, і ў партугальскай Фаціме. Не царам, ня тым, што ў храмах сабе золата чапляюць, не навукоўцам, а тым, хто бліжэй за ўсіх да Валадарства нябеснага; бо хто мае што сказаць людзям, найперш ідзе да сваіх суседзяў, хоць нябесны пакроў і дасягае да самага дна.

Хрысьціянскай Царквой Пакроў сьвяткуецца ў гонар зьяўленьня Маці Божай сьвятому Андрэю, дзеля Хрыста юродзіваму (славяніну, адпушчанаму на волю з рабства) і ягонаму вучню Епіфанію падчас усяночнай малітвы 1 кастрычніка 910 году ва ўлахернскай царкве Канстанцінопаля, дзе захоўвалася рыза Божай Маці, яе галаўное покрыва і частка поясу.

З анёламі і мноствам сьвятых Багародзіца, укленчыўшы, доўга малілася аб збаўленьні людзей ад голаду, патопу, агню і мяча. Потым, зьняўшы са сваёй галавы доўгае белае покрыва, яна распрасьцерла яго над людзьмі, што былі ў царкве, абараняючы іх ад бачных і нябачных ворагаў. Апякунка хрысьціянаў прасіла ў Госпада Ісуса Хрыста прыняць малітвы ўсіх людзей, якія зьвярталіся да яе з просьбай аб заступніцтве.

Цуд гэты здарыўся падчас нападу туркаў на Візантыю, яшчэ да таго, як Канстанцінопальскі патрыярх Міхаіл Керулярый пракляў Сьвяты Апостальскі Пасад Біскупа Рыму, заступніка Госпада нашага Ісуса Хрыста на зямлі. За гэта ён быў 16 ліпеня 1054 году адлучаны ад Царквы Хрыстовай Паўсюднай. Пры падтрымцы візантыйскага імператара Керулярый утварыў з ягоных падданых асобную ад астатніх хрысьціянаў Праваслаўную Царкву. Нягледзячы на гэты падзел хрысьціянаў, сьвята Пакрова Найсьвяцейшай Багародзіцы аднолькава шануецца, як вернікамі Праваслаўнай, так і Грэка-Каталіцкай Царквы.

Пакроў Найсьвяцейшай Багародзіцы ня толькі дата ў календары, зьвязаная з пэўнай гістарычнай падзеяй. Такіх падзеяў і дакументальна зафіксаваных цудаў у гісторыі хрысьціянства было нямала, час ад часу яны й сёньня здараюцца. Але Пакроў адзін, на ўсіх і назаўжды без перапынку, як і ўсё, што зыходзіць ад Бога.

Слава Табе, Божа наш, слава табе!

**Раман Лазар**
*г. Слонім*

## У Беларусі

# У Пінску пачала працаваць вышэйшая духоўная семінарыя

Пасьля шасьці дзесяцігоддзяў перапынку 12 верасьня 2001 году ў Пінску зноў адкрылася Вышэйшая духоўная семінарыя імя сьв. Тамаша Аквінскага. Цяпер яна будзе міждыяцэзіяльнай і абслугоўваць патрэбы Менска-Магілёскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзіяў. Гэта ўжо другая ў Беларусі вышэйшая духоўная семінарыя. Першая — Гарадзенская семінарыя — дзейнічае з 1989 году, і з яе сьценаў выйшла ўжо больш за 70 беларускіх рыма-каталіцкіх сьвятароў.

Ва ўрачыстасьцях у Пінскай катэдры бралі ўдзел усе каталіцкія біскупы Беларусі, а таксама архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч з Масквы, рэктар каталіцкай семінарыі ў Санкт-Пецярбургу а. Антоні Гей і прадстаўнік Рыжскай вышэйшай духоўнай семінарыі.

Урачыстую сьв. Імшу ў прысутнасьці шматлікіх сьвятароў, манахаў і вернікаў адслужыў Мітрапаліт Менска-Магілёўскі Казімір Сьвёнтак. Казаньне з нагоды адкрыцьця вышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску гаварыў архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Затым урачыстасьці працягваліся ў цудоўна адрэстаўраваным будынку семінарыі. Былы нунцый у Беларусі архібіскуп Дамінік Грушоўскі зачытаў па-лацінску дэкрэт Папы пра заснаваньне семінарыі, які пасьля быў абвешчаны па-беларуску біскупам Казімірам Велікасельцам.

Кардынал Казімір Сьвёнтак выказаў пажаданьне, каб семінарыя стала «асяроддзем, якое будзе спрыяць такому фармацыйнаму працэсу чалавечага, духоўнага, інтэлектуальнага і душпастырскага вымярэньня, дзякуючы якому чалавек, пакліканы Богам да сьвятарства, можа стаць, моцаю сьвятарскіх пасьвячаньняў, жывым вобразам Ісуса Хрыста — Галавы і Пастыра Царквы». Кардынал зачытаў сьпіс прафесароў і выкладчыкаў семінарыі і адзначыў, што выкладаньне ў Пінскай духоўнай семінарыі будзе весьціся па-беларуску. Сёлета 15 кандыдатаў падалі свае заявы на навучаньне.

Духоўная семінарыя пачала сваю дзейнасьць у Пінску ў 1925 годзе. Да яе заснаваньня найбольш спрычыніліся біскуп Зыгмунт Лазінскі і архімандрыт Фабіян Абрантовіч (пазьнейшы Апостальскі адміністратар для каталікоў усходняга абраду ў Харбіне). Напачатку імі была арганізавана каталіцкая духоўная семінарыя ў 1918 годзе ў Менску. Аднак праз 2 гады семінарыя і супрацоўнікі на чале з рэктарам а. Фабіянам Абрантовічам вымушаны былі пераехаць у Навагрудак, а затым — у Пінск. Менавіта а. Фабіян Абрантовіч быў прызначаны адказным за будову духоўнай семінарыі ў Пінску. Каб семінарыя хутчэй распачала сваю працу, а. Ф.Абрантовіч пазычыў біскупу З.Лазінскаму, 10 тысячаў даляраў на 5 гадоў з фундушу княгіні Магдалены Радзівіл (адным з распарадчыкаў яго быў а. Ф.Абрантовіч), які яна выдзеліла на заснаваньне ў Рыме семінарыі для беларускіх грэка-католікаў. Стаць рэктарам у Пінскай семінарыі і, магчыма, паспрыяць фармаваньню беларускага ўніяцкага духавенства яму не давялося — перашкодай сталі беларускія погляды а. Фабіяна, якія ў тагачаснай Польшчы не віталіся.

Варта адзначыць, што Пінская духоўная семінарыя, асабліва ў часы біскупства З.Лазінскага, усё ж спрычынілася да пашырэньня Уніі ў Заходняй Беларусі. У семінарыі было аддзяленьне, на якім навучалася невялікая колькасьць будучых душпастыраў уніяцкіх парафіяў, дзейнічаў уніяцкі гурток, які аб'ядноўваў клірыкаў абодвух абрадаў, чыталіся лекцыі па гісторыі Уніі і ўсходняй літургіцы. Асабліва ўрачыста адзначаўся дзень памяці сьв. Язафата, у які звычайна служылася сьв. Літургія ў візантыйскім абрадзе. Важнае значэньне мелі таксама Пінскія ўніяцкія канферэнцыі, якія ладзіліся ў 30-ыя гады і ў якіх бралі ўдзел такія знакамітыя асобы, як Клімент Шаптыцкі, Ёсыф Сьліпы, Мікалай Чарнецкі, Зыгмунт Лазінскі, Антон Неманцэвіч ды інш.

Хочацца пажадаць, каб Пінская духоўная семінарыя аднавіла найлепшыя свае традыцыі, а яе выхаванцы працавалі ў Беларусі для спаўненьня Хрыстовага запавету «каб усе былі адно».

# Кіраўнік ватыканскага прэс-цэнтру: пачынаецца новая эпоха ў каталіцка-праваслаўным дыялогу

Пілігрымка Сьвятога Айца ва Украіну не пагоршыць праваслаўна-каталіцкіх стасункаў, а, наадварот, адчыніць новы этап у дыялогу, сказаў прэс-сакратар Апостальскай Сталіцы Хаакін Навара-Валс 27 чэрвеня на прэс-канферэнцыі ў Львове. Навара-Валс запэўніў, што Рымскі Архірэй Ян Павел ІІ таксама ў гэтым перакананы.

Паводле словаў прэс-сакратара Апостальскай Сталіцы, Сьвяты Айцец поўны рашучасьці весьці дыялог з Маскоўскім Патрыярхатам без усялякіх папярэдніх умоваў. Доказам новай якасьці дыялогу, адзначыў ён, ёсьць тое, што ў Кіеве на двух Літургіях з удзелам Папы амаль палова ўдзельнікаў былі праваслаўныя. Больш за тое, у папскай Літургіі ў візантыйскім абрадзе на львоўскім іпадроме браў удзел расейскі праваслаўны сьвятар Іван Сьвірыдаў з Аддзелу Зьнешніх зносінаў Маскоўскага Патрыярхату, які быў блізкім сябрам спачылай Ірыны Ілавайскай-Альбэрці, вядомай расейскай інтэлектуалкі. Ён прысутнічаў на гэтай Літургіі, бо ня мог, паводле ягоных уласных словаў, абмінуць такую вялікую падзею, зважаючы на тое, што Папа заклікае да дыялогу, міру і еднасьці. Айцец І.Сьвірыдаў таксама выказаў меркаваньне, што «магчымы візіт Папы» ў Маскву наўрад ці паслабіць напружаньне ў стасунках РПЦ і Каталіцкай Царквы.

# Папа: ёсьць адна вера ў Хрыста

*Адразу пасьля візіту ў Казахстан (25-27 верасьня 2001 году) Папа зьдзейсьніў пілігрымку ў Арменію. Сьвяты Айцец прыбыў у гэту краіну на ўрачыстасьці з нагоды 1700-ых угодкаў яе Хросту, каб аддаць пашану 1,5 млн. армянаў, што сталіся ахвярамі генацыду, які быў учынены туркамі ў 1915 годзе.*

«У гэтым месцы прагну засьведчыць, што вашая вера ёсьць верай у Ісуса Хрыста, праўдзівага Бога і праўдзівага чалавека: адзін Госпад, адна вера, адзін хрост»,— гэткім экуменічным заклікам завершыў Сьвяты Айцец сваё слова ў армянскай катэдры ў Эчміадзіне. «Як Біскуп Рыму падаю на калені ў подзіве з нябеснага дару Хросту вашага народу, складаю пашану гэтай сьвятыні, якая ёсьць сымбалем Народу, які ад самага пачатку, згодна з поглядам сьв. Рыгора, носіць на сваіх постацях знак мучаніцтва»,— гаварыў Папа з нагоды 1700-гадовага юбілею Хросту Арменіі.

Папа асабліва падзякаваў Гарэгіну ІІ за гасьціннасьць, якую ён аказаў у сваім доме, і адзначыў, што гэта ёсьць падзея, якая ня мае аналагаў. Упершыню Папа Рымскі за ўвесь час свайго побыту ў нейкай краіне жыў у доме свайго Брата, які ўзначальвае адну са славутых Цэркваў Усходу, і дзяліў з ім штодзённае жыцьцё пад тым самым дахам.

Папа Рымскі назваў Каталікоса ўсіх армянаў Гарэгіна ІІ сваім братам. На знак еднасьці і братэрства яны сумесна ўдзялілі блаславенства і пацалавалі адзін аднаго ля алтара катэдры ў Эчміадзіне — галоўнай сьвятыні армянскага народу. Разам яны заклікалі хрысьціянаў, каб «вызнавалі адну веру і залячылі раны падзелаў». «Ніколі болей хрысьціяне супраць хрысьціянаў, Царква супраць Царквы!»— заклікаў Папа.

Падпісаньнем Дэкларацыі еднасьці хрысьціянаў армянскага абраду і католікаў завершылася 95-ая пілігрымка Папы Яна Паўла ІІ. «Складанасьць і выклікі міжнароднай сітуацыі вымагаюць выбару паміж дабром і злом, цемраю і сьвятлом, чалавечым і нялюдзкім, праўдай і хлусьнёю»,— гаворыцца ў сумеснай дэкларацыі, падпісанай Папам Янам Паўлам ІІ і армянскім Каталікосам Гарэгінам ІІ напрыканцы візіту Папы ў Арменію.

Дзякуючы за сардэчны прыём прэзідэнту Арменіі Робэрту Качарану, Каталікосу Гарэгіну ІІ і ўсяму народу Арменіі, Папа даверыў краіну апецы сьв. Рыгора Асьветніка і папрасіў Бога, «каб лідары Арменіі ды іншых народаў рэгіёну праявілі мудрасьць і трываласьць у адважным сьледаваньні дарогай міру, бо бяз міру ня можа быць сапраўднага поступу і дабрабыту».

# Казахстан адкрыты на дыялог рэлігіяў і цывілізацыяў

*Казахстан стаў шостай краінай колішняга СССР пасьля Літвы, Латвіі, Эстоніі, Грузіі і Украіны, якую наведаў Папа Рымскі 22-25 верасьня 2001 году. Візіт адбываўся ў сьвятле трагічных падзеяў у Амерыцы, і таму нават была думка адкласьці яго.*

У 1930-40-ыя гады Казахстан быў месцам ссылкі мільёнаў людзей розных нацыянальнасьцяў з усяго СССР. Гэта край мільёнаў пакутнікаў і лагероў. Самыя казахі таксама жорстка перасьледаваліся. У першай палове трыццатых амаль палова чатырохмільённага народу загінула альбо вымушана была эміграваць у Кітай, Манголію ды іншыя краіны. Таму, нездарма першым месцам, куды паехаў Сьвяты Айцец Ян Павел II пасьля цырымоніі прывітаньня ў аэрапорце Астаны, стаў помнік ахвярам камуністычных рэпрэсіяў, дзе ён усклаў вянок і правёў некалькі хвілінаў у роздуме ды малітве.

Логіка любові можа зьяднаць хрысьціянаў і мусульманаў — сказаў Папа ў сваёй гаміліі падчас сьв. Імшы на пляцы Маці Айчыны ў цэнтры Астаны. Сьвятога Айца вітаў 25-тысячны шматнацыянальны натоўп вернікаў, сярод якіх было найбольш палякаў, немцаў, украінцаў. Алтар для набажэнства быў збудаваны ў выглядзе зашклёнай казахскай юрты. На гмаху казахскага Міністэрства Замежных Спраў, што замыкаў адзін з куткоў плошчы, месьціўся велічэзны надпіс: «Казахстан адкрыты на дыялог рэлігіяў і цывілізацыяў». Папу віталі ня толькі казахстанскія каталікі, якіх у краіне ня менш за 189 тысячаў, і пілігрымы з сібірскіх гарадоў Расеі, але й праваслаўныя ды мусульмане. Сярод апошніх быў і вярхоўны муфці Казахстану. У часе сьв. Літургіі Папу Рымскаму саслужылі 2 кардыналы, 18 біскупаў і 172 сьвятары. Набажэнства адбывалася ў асноўным па-расейску. Таксама па-расейску, і амаль без акцэнту Папа гаварыў да вернікаў. «З гэтага гораду, з Казахстану, дзе ў гармоніі жывуць людзі розных нацыянальнасьцяў і рознае веры, заклікаю ўсіх хрысьціянаў і вернікаў іншых канфесіяў, каб будавалі разам сьвет бяз сілы, сьвет, які радуецца жыцьцю, разьвіваецца ў справядлівасьці, у салідарнасьці»,— сказаў Ян Павел II да вернікаў, што сабраліся на сьв. Літургію ў Астане.

Падчас сустрэчы з прэзідэнтам краіны Нурсултанам Назарбаевым Сьвяты Айцец назваў «мужным крокам» рашэньне Казахстану аб закрыцьці Семіпалацінскага ядзернага палігону і аднабаковую адмову ад ядзернай зброі. Шматнацыянальны характар казахскага грамадзтва павінен стаць нагодаю для ўзаемаўзбагачэньня, а не канфліктаў, падкрэсьліў Папа, заклікаючы кіраўніцтва краіны прытрымлівацца дэмакратычных свабодаў, і, у прыватнасьці, свабоды веравызнаньня. Казахскі лідар падзякаваў Сьвятому Айцу за тое, што ён зьдзейсьніў гэты візіт у такіх складаных міжнародных абставінах і пацьвердзіў гатоўнасьць далучыцца да міжнароднай кааліцыі барацьбы супраць тэрарызму. Напрыканцы сустрэчы з Папам прэзідэнт Казахстану папрасіў Боскага бласлаўленьня для сваёй краіны.

У памяшканьні Еўразійскага ўніверсітэту ў Астане Папа Ян Павел II меў сустрэчу з моладдзю. Зьвяртаючыся да казахскай моладзі, Сьвяты Айцец пажадаў ёй: «Хай не давядзецца нікому з вас упасьці ў грэх насільля, які ня менш разбуральны, чым пустэча камуністычнае ідэалогіі, якая прынесла столькі цярпеньняў вашым бацькам... Толькі сустрэча з Хрыстом дае чалавеку поўнае шчасьце».

У Астане, у збудаваным у 90-ыя гады катэдральным саборы Маці Божай Нястомнай Дапамогі, Папа адслужыў ранішняе набажэнства для каталіцкага духавенства, манаства і семінарыстаў цэнтральнаазіяцкага рэгіёну. У ходзе яго Сьвяты Айцец прысьвяціў «краіну гулагаў» заступніцтву Найсьвяцейшай Багародзіцы — Царыцы сьвету, а таксама падкрэсьліў, што сьведчаньне Евангельля ня мае нічога супольнага з агрэсіўным празелітызмам ды адбываецца ў «лагоднай атмасферы дыялогу».

Ніколі Бог не павінен быць «закладнікам людзкіх амбіцыяў», сказаў Папа Ян Павел II, узгадваючы памылкі мінулага і выказваючы сваю павагу да «аўтэнтычнага ісламу» падчас сустрэчы з дзеячамі культуры, мастацтва і навукі Казахстану, што прайшла ў сталічным палацы кангрэсаў у прысутнасьці прэзідэнта краіны. «Нянавісьць, фанатызм і тэрарызм зьневажаюць Божае імя і скажаюць праўдзівы вобраз чалавека»,— адзначыў Папа.

Візіт у Казахстан стаў для Папы таксама магчымасьцю ўшанаваць памяць асабістых сяброў, якія былі дэпартаваныя ў Казахстан і памерлі ці загінулі тут.

Падчас разьвітаньня Папа яшчэ раз заклікаў Казахстан да «місіі салідарнасьці і міру». Ён адзначыў, што «пошук дыялогу і гармоніі», які на працягу стагоддзяў характарызуе стасункі паміж хрысьціянствам ды ісламам у Казахстане, дазваляе краіне «стаць мостам паміж Захадам і Усходам на Вялікім ядвабным шляху».

## Акт вандалізму супрацоўнікаў кітайскай дзяржбясьпекі

Магіла колішняга каталіцкага біскупа горада Баодзін (правінцыя Хэбэй) Пятра Язэпа Фань Сюяня была зраўнана з зямлёй і зьнішчана разам з могілкамі супрацоўнікамі кітайскай дзяржбясьпекі яшчэ 22 траўня 2001 году, аднак журналістам гэта стала вядома толькі 13 жніўня.

Біскуп Фань, які памёр у 1992 годзе ў вязьніцы, быў выдатным дзеячом катакомбнай Рыма-Каталіцкай Царквы, якая захоўвала супольнасьць са Сьвятым Пасадам. Галоўнай прычынай ганеньняў, якім падвяргалі яго камуністычныя ўлады, была адмова пралата выйсьці з падпарадкаваньня Папы Рымскага. Біскуп Пётр Язэп Фань быў высьвячаны на сьвятара ў 1934 годзе, а ў сан біскупа — у 1951-ым, у разгар ганеньняў на рэлігію. З тых часоў большую частку свайго жыцьця біскуп правёў у лагерах, турмах ці пад наглядам паліцыі.

Нягледзячы на ўсе намаганьні ўладаў, магіла біскупа Фаня стала месцам паломніцтва шматлікіх каталікаў, якія глыбока шанавалі яго і пры жыцьці, і пасьля сьмерці. Колькасьць тых, хто наведваў магілу, пачала рэзка расьці пасьля эксгумацыі, што мела месца ў 2000 годзе, калі выявілася, што цела біскупа-мучаніка засталося амаль непашкоджанае часам. Як сьведчаць відавочцы, калі труна была ўскрыта, на целе біскупа можна было бачыць сьляды ад ранаў і катаваньняў.

## Папа Рымскі заклікае маліцца супраць тэрарызму

Папа Ян Павел II назваў дзень 11 верасьня, калі тэрарысты ўзарвалі два хмарачосы ў Амерыцы, чорным днём гісторыі і заклікаў вернікаў няспынна маліцца, каб сьвет быў уратаваны ад «жахлівага біча» — тэрарызму, і дадаў, што правасуддзе ідзе поруч з мірам.

Выступаючы перад вернікамі, што сабраліся на плошчы сьв. Пятра, Сьвяты Айцец заклікаў іх «быць на пярэднім краі ў пошуку справядлівасьці, у абароне гвалту, а таксама быць пасланцамі міру».

«Жахлівую трагедыю 11 верасьня людзі будуць памятаць як адзін з самых чорных дзён у гісторыі чалавецтва»,— сказаў Папа. Ён дадаў, што Царква будзе «нагадваць усім людзям пра іх абавязак будаваць мірную будучыню для ўсёй чалавечай сям'і».

Адносна намеру ЗША прывесьці тэрарыстаў да адказу Ян Павел II сказаў: «Несумненна, мір непадзельны ад правасуддзя, але яно заўсёды павінна базавацца на міласьці і любові».

Папа таксама памаліўся за ўсё чалавецтва, каб «за сьмерцю і нянавісьцю не засталося апошняе слова». ❑

## «Амерыканцы, пасьціце, пакуль ідзе вайна!»

З такім заклікам зьвярнуўся да ўсіх вернікаў Вашынгтонскай рыма-каталіцкай архідыяцэзіі мясцовы мітрапаліт кардынал Тэдар Мак-Карык. Ён заклікаў амерыканцаў да посту, прынамсі, раз на тыдзень, аж пакуль не закончыцца вайна ў Аўганістане.

Кардынал падкрэсьліў, што гэты сьвяты абавязак адмаўленьня і пакуты «мае на мэце выпрасіць у Бога прабачэньне для ўсіх Ягоных дзяцей — як для сяброў, так і для ворагаў».

Ён асабліва зьвярнуўся да ўсіх каталікаў, каб такім чынам яны выявілі перад Богам сваё жаданьне жыць у бясьпечным і справядлівым сьвеце і каб малілі Яго аб тым, «каб мужчыны і жанчыны на гэтай Зямлі ніколі не былі вымушаныя жыць у страху і няпэўнасьці».

Мітрапаліт Вашынгтонскі пакінуў самім вернікам выбар дня посту, прапануючы, аднак, пятніцу як дзень, агульны для ўсіх хрысьціянаў, бо ў гэты дзень Ісус Хрыстос памёр у муках за збаўленьне чалавецтва. Кардынал таксама зьвярнуў увагу на тое, што гэты дзень сьвяты і для мусульманаў. «Таму натуральным выбарам ёсьць пятніца, бо гэтым мы падкрэсьліваем нашую падтрымку, павагу і любоў да тых, хто вызнае іслам»,— адзначыў кардынал Мак-Карык.

Архібіскуп Вашынгтонскі заўважыў, што, яднаючыся ў пятніцу з мусульманамі, каталікі засьведчаць, што не абвінавачваюць усю рэлігію за правіны асобных яе вызнаўцаў і што выказваюць жаданьне ўстанавіць мір у сьвеце. ❑

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленьняў КАП, Агенцтва рэлігійнай інфармацыі (АРІ) і іншых прэсавых крыніцаў.*



# Сьвята Росіцкіх пакутнікаў

Росіца... Звычайная беларуская вёска на поўначы Беларусі. Калісьці жыло тут значна болей людзей, чым цяпер. Пасьля трагедыі ў лютым 1943-га гэтая вёска і ваколіцы да сёньняшняга дня не набылі былой велічы. Навокал няма іншых вёсак. Пра тое, што жылі калісьці там людзі, кажуць маўклівыя, зарослыя травою, кустамі ды маладымі дрэўцамі пагосты. Гэта сьляды лютай вайны. Вайны, якая зьнішчыла малых і старых, спаліла вёскі. На жаль, падобных мясьцінаў у Беларусі многа.

Чым жа Росіца прыцягвае да сябе людзей розных традыцыяў, розных станаў, розных узростаў? Ці можна падыйсьці да ўсяго з іншага боку, гледзячы з надзеяй? Станоўчы адказ на гэтае пытаньне дала падзея 13 чэрвеня 2000 году. Менавіта ў той дзень Ян Павел II беатыфікаваў у Варшаве адразу 108 мучанікаў з часу II Сусьветнай вайны, сярод якіх былі два сьвятары — блаславёны Юры Кашыра і блаславёны Антоні Ляшчэвіч, манахі-марыяне, спаленыя разам са сваімі вернікамі ў Росіцы ў лютым 1943-га. Пра гэтых двух сьвятароў і пра іх подзьвіг веры можна пісаць кнігі, складаць вершы, сьпяваць песьні.



Сёлета 17-18 жніўня ў Росіцы адбылося сьвята, прысьвечанае менавіта гэтым двум сьвятым Зямлі беларускай. За некалькі дзён да сьвята на месца пакутніцкай сьмерці вырушылі пешкі пілігрымы з Полацку і Друі. У праграму ўрачыстасьці ўваходзілі малітоўная і культурная часткі. Сьвята адначасова спалучыла ўсходнюю і заходнюю традыцыі.

Пасьля таго, як 17 жніўня прыбылі пілігрымы, а 18-й гадзіне пачаліся нешпары — вячэрняя малітва ў лацінскім абрадзе. Пазьней прадстаўнікі полацкай і менскіх грэка-каталіцкіх парафіяў засьпявалі акафіст да Найсьвяцейшай Багародзіцы. Першым пунктам культурнай праграмы ўрачыстасьці, яшчэ перад поўначчу, было спатканьне з народным паэтам Беларусі Рыгорам Барадуліным, каторы чытаў свае вершы. Апоўначы пачалася сьвятая Літургія лацінскага абраду, пасьля якой мела месца ўрачыстае шэсьце на пляц мучаніцкай сьмерці аднаго з блаславёных. Сотні вернікаў вырушылі з запаленымі сьвечкамі па цёмных вуліцах Росіцы, шляхам тых, каторыя калісьці йшлі на сьмерць. Агонь гэтых сьвечак ня быў агнём сьмерці, але агнём веры, надзеі і любові, які быў запалены тымі мучанікамі і які несьлі ў сьвет новыя пакаленьні. На месцы мучаніцкай сьмерці, дзе загінула больш за тысячу чалавек, усе прысутныя маліліся за памерлых і да блаславёных, каб нам усім, што жывем цяпер, сьмела крочыць у сьвет і быць сьведкамі веры, хоць, можа, не да праліцьця ўласнай крыві, але з такім жа адданьнем і адвагай, як Росіцкія мучанікі. Вярнуўшыся з пляцу ізноў да сьвятыні, жадаючыя маглі ўбачыць музычную пастаноўку пра грэх і навяртаньне, якую падрыхтавала моладзь з аршанскай рыма-каталіцкай парафіі сьв. Язэпа. Пазьней, а 5-й гадзіне раніцы, вернікі (ня толькі ўсходняй традыцыі) маглі ўдзельнічаць у Ютрані, пасьля якой адбыўся канцэрт рэлігійных сьпеваў, у якім выступала некалькі хораў. Раніцою а дзевятай гадзіне пачалася сьвятая Літургія візантыйскага абраду, у якой удзельнічалі ня толькі каталікі, але й шмат праваслаўных. Блаславёныя росіцкія сьвятары служылі калісьці верным хрысьціянам абодвух традыцыяў, падобна й цяпер іх літургічны ўспамін стаўся месцам супольнай малітвы для каталікоў усходняй і заходняй традыцыяў, а таксама й праваслаўных.

Галоўным момантам урачыстасьці была сьвятая Літургія апоўдні. Сярод прадстаўнікоў грэка-каталіцкай ярархіі, якія ўдзельнічалі ў сьвятой Літургіі, быў Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі айцец архімандрыт Сяргей Гаек, каторы скіраваў урачыстае слова да ўсіх прысутных. Былі таксама сярод сьвятароў прадстаўнікі іншых каталіцкіх парафіяў Беларусі і замежжа.

Кожны з нас можа зьвярнуцца з просьбаю да Бога праз заступніцтва сьвятых мучанікаў Зямлі беларускай блаславёных Юрыя і Антонія:

*Усемагутны Вечны Божа,*
*Ты адарыў ласкаю пакутніцкай сьмерці*
*блаславёных Юрыя і Антонія,*
*якія нават у хвіліну пагрозы для іх жыцьця*
*далі сьведчаньне духу любові,*
*адданай пастырскай службы і прынялі*
*сьмерць разам з братамі.*
*Спашлі нам праз іх заступніцтва*
*ласку мужнасьці, каб нашая штодзённая*
*служба бліжнім*
*сталася ўдзелам у жыцьці Царквы*
*і давяла нас да вечнай радасьці сьвятых.*
*Праз Хрыста, Госпада нашага. Амін.*

**Валеры Гаўрута**

## *Пілігрымка з Віцебску ў Полацак*

Заканчэньне са с.1.

Гэта былі вельмі прыемныя сустрэчы, бо літаральна да мінулага году пілігрымка праходзіла праз гэтыя мясцовасьці, дзе яшчэ не было ані каталіцкіх, ані праваслаўных сьвятыняў.

Пілігрымы традыцыйна памаліліся ў Струні на месцы рэзідэнцыі ўніяцкіх мітрапалітаў, а ў Полацку — каля сьв. Сафіі. У былую ўніяцкую катэдру грэка-каталікоў, зноў жа традыцыйна, не пусьцілі...

Пілігрымка скончылася вячэрняю малітваю ў манастырскай царкве сьв. Параскевы Полацкай у суботу 14 ліпеня. Але большасьць гасьцей засталася й на нядзелю. У гэты дзень манастыр айцоў-студытаў адзначаў сьвята сваіх апекуноў сьв. Барыса і Глеба. Была гэта падвойная ўрачыстасьць, бо адзін з братоў гэтага манастыра Юрась Камлыга прыняў Малую Схіму. Гэты абрад сымбалізуе сьмерць манаха для свету і пачатак новага жыцьця для Бога. Таму брат, які складае абеты, атрымоўвае новае імя. Так Юрась Камлыга стаў Глебам, у гонар аднаго з апекуноў полацкага манастыра. Брат Глеб стаўся трэцім беларускім студытам, які прыняў Малую Схіму. Пасьля Літургіі ігумен айцец Венядыкт (Алексійчук) зьвярнуўся да бацькоў брата Глеба, падкрэсьліваючы, што гэтая ўрачыстасьць можа здавацца ім сумнаю, бо, у пэўным сэнсе, яны губляюць сына. Але менавіта дзякуючы выхаваньню, якое ён атрымаў ад бацькоў, брат прымае сёньня схіму. Айцец Клеменці, зьверхнік полацкага манастыра, складаючы віншаваньні новаму схімніку, зрабіў яму сымбалічны падарунак — іконы сьв. Барыса й Глеба. Пры гэтым айцец-настаяцель сказаў: «Вось сьв. Глеб, твой апякун, а Барыса мусіш сабе вымаліць».

**Андрэй Крот**

# Кіеў: 2/3 праваслаўных на сьв. Літургіі з удзелам Папы

Больш за 30 тысячаў вернікаў, а сярод іх амаль 2/3 праваслаўных, прысутнічалі 25 чэрвеня 2001 году ў Кіеве на сьв. Літургіі ў візантыйскім абрадзе, якую ў прысутнасьці Папы Рымскага Яна Паўла ІІ адслужыў Галава Ўкраінскай Грэка-Каталіцкай Царквы Любамір Кардынал Гузар. Яму саслужылі ярархі УГКЦ — Мітрапаліт Міхаіл Бздэль з Канады, Мітрапаліт Стэфан Сарока з ЗША, Экзарх Кіева-Вышгарадзкі Васіль Мэдвіт, біскуп Тарнопальскі Міхаіл Сабрыга.

Сярод удзельнікаў набажэнства было шмат паломнікаў ня толькі з розных куткоў Украіны, але і з-за мяжы. Асабліва шматлікімі былі групы паломнікаў з Польшчы, Беларусі і Расеі. У Кіеве ды і ва ўсёй усходняй частцы Ўкраіны зусім няшмат грэка-католікаў, і таму для ўсіх вялікай нечаканасьцю стала тое, што, не зважаючы на дождж, сьв. Літургія ў візантыйскім абрадзе прыцягнула неспадзявана шмат праваслаўных вернікаў (былі і сьвятары). Як адзначыў прэс-сакратар Апостальскай Сталіцы Хаакін Навара-Валс, яны складалі на набажэнстве каля 2/3 усіх вернікаў. «Праваслаўныя вернікі, якія прыбылі сюды, відавочна, не лічыліся са стаўленьнем сваёй ярархіі, яны прыйшлі на сустрэчу з Папам, кіруючыся ўласным сэрцам»,— заўважыў Хаакін Навара-Валс. На яго думку, непрыхільнае стаўленьне Маскоўскага Патрыярхату да візіту Папы ва Ўкраіну больш палітычнае, чым рэлігійнае.



• *Кіеў, 25.06.2001, сьв. Літургія ў візантыйскім абрадзе. Беларускія грэка-католікі вітаюць Рымскага Архірэя Яна Паўла ІІ.*



• *Кіеў, 24.06.2001, Сьвятога Айца Яна Паўла ІІ ад імя беларускіх грэка-католікаў вітае Апостальскі візітатар архімандрыт Сяргей Гаек.*

Вітаючы Сьвятога Айца ад імя грэка-каталіцкай ярархіі і вернікаў, Экзарх Кіева-Вышгарадзкі Васіль Мэдвіт адначасова заклікаў усіх хрысьціянаў да паяднаньня. «Каб споўніць Хрыстову місію яднаньня, мы ня можам заставацца адно на паверхні зьяваў з памяцьцю, якая абцяжараная ранамі гісторыі, старымі канфліктамі і засьцярогамі»,— адзначыў Уладыка. «Мы павінны ачысьціць сваю памяць, сваю душу ад цяжараў мінулага, мы мусім нарадзіцца да годнасьці дзяцей Божых»,— заклікаў Уладыка Васіль Мэдвіт.

Галоўным акцэнтам казаньня Папы стала тэма хрысьціянскай еднасьці. Яскравым прыкладам еднасьці Каталіцкіх Цэркваў ва Украіне сталася саслужэньне Еўхарыстыйнага канону Яго Блаславенствам Любамірам Кардыналам Гузарам і Яго Эмінэнцыяй Мар'янам Кардыналам Яворскім. Завершаньнем гэтага стала Сапрычасьце Яго Сьвятасьці Яна Паўла ІІ Папы Рымскага, біскупаў абодвух абрадаў, сьвятароў і вернікаў.

Пасьля таго, як паломнікі засьпявалі Сьвятому Айцу «Многія леты», Папа зьвярнуўся да прысутных з прывітаньнямі на ўкраінскай, польскай, беларускай, вянгерскай і расейскай мовах. На знак удзячнасьці і пашаны гетман украінскага казацтва Іван Білас і кіраўнік Саюзу афіцэраў, камандуючы Чарнаморскім флотам Украіны адмірал Барыс Кожын, паднесьлі Папе падарункі.

Напрыканцы набажэнства Рымскі Архірэй удзяліў удзельнікам Літургіі сваё Апостальскае благаславеньне.

# Аддацца дзеяньню Духа Сьвятога

Знаёмства з Магілёўскай нядзельнай школай у мяне адбылося гады два, таму можна сказаць, завочна — з размоў з дырэктаркай гэтай школкі Аленай Лосевай і выхавацелькай Кацярынай Івановай. Падчас тых гутарак пра радасьці і праблемы парафіяльнага жыцьця я і пачуў, якую цяжкую працу пачала Алена і яе памочніцы. Амаль што з нуля пачыналася распрацоўка праграмаў і матэрыялаў для катэхізацыі. Кожнае лета трэба было рыхтаваць план на новы навучальны год, ня маючы ні новых падручнікаў для дзяцей, ні метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў. Прыходзілі новыя дзеці рознага ўзросту, а тым, што былі, трэба было рабіць новую праграму. Вядома, ёсьць добрыя праграмы нашых братоў рыма-католікоў. Але гэта не зусім тое, што нам патрэбна. Мы, грэка-католікі, маем іншую малітоўную і літургічную традыцыю. Таксама ёсьць добрыя праграмы грэка-католікаў з Украіны, але зноў паўставала пытаньне пра іх адаптацыю да беларускай сітуацыі. Украіна — гэта не Беларусь, іх праграмы распрацаваньня для ўжо сталых нядзельных школак і для дзяцей з веруючых сем'яў. Выхаванцы Магілёўскай школкі паходзяць пераважна з сем'яў няверуючых, а нават цяжкіх. І гэта яшчэ ня ўвесь пералік праблемаў (і, дадам — радасьцяў), якія ўзялі на свае плечы гэтыя сапраўды адданыя Богу, нашай Царкве і сваёй працы дзяўчаты.



• *Выхаванцы Магілёўскай нядзельнай школы ў Кастамлотах.*

Як вынік — невялічкая група дзяцей перарасла на працягу адносна кароткага часу (4-5 гадоў) у досыць вялікую школу, у якой каля 60 выхаванцаў рознага ўзросту. А на мінулагодніх сустрэчах з катэхетамі, адна з якіх праходзіла ў Магілёве, Алена Лосева дзялілася сваім унікальным вопытам з катэхетамі з усёй Беларусі.

Вочнае маё знаёмства з Магілёўскай нядзельнай школкаю адбылося летась у летніку ў Полацку. Там я ўпершыню пабачыў, як, з аднаго боку, цяжка, а з другога — прыемна і радасна працаваць з дзецьмі. Нягледзячы на іх непаслухмянасьць, любоў да жартаў і гульняў, жаданьне вырвацца з-пад апекі бацькоў і, атрымаўшы доўгачаканую «волю», не падпарадкоўвацца якімсьці правілам у летніку, вынік працы не прымусіў доўга чакаць. Я пабачыў яго падчас пэўнай сцэнкі на біблійную тэматыку, якую дзеці падрыхтавалі тады разам з Аленаю.

Працяг на с. 15 ⇨

## МАЛІТВА ПАПЫ Ў ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЙ КАПЛІЦЫ НА АСКОЛЬДАВАЙ МАГІЛЕ

Па дарозе з лётнішча Барыспаль Папа Ян Павел II заехаў памаліцца ў грэка-каталіцкую капліцу сьв. Мікалая ў Кіеве, якая збудаваная на Аскольдавай магіле і якая ёсьць адным з сымбаляў хрысьціянства ва Ўкраіне.

Паводле паданьня, у капліцы сьв.Мікалая спачывае князь Аскольд, пра якога летапісцы пісалі як пра першага хрысьціянскага ўладара Русі. У гэтай капліцы спачываюць таксама кіеўскія студэнты, што загінулі ў 1918 годзе ў баях з бальшавікамі.

Сьвяты Айцец каля 10 хвілінаў маліўся ля цудатворнае іконы Маці Божай Зарваніцкай, якую адмыслова даставілі ў сталіцу Украіны, і прасіў блаславеньня на час свайго апостальскага падарожжа па Ўкраіне. «Дзякую Табе за ласку знаходжаньня ў Кіеўскай Русі... Найсьвятая Маці Божая, пакрый сваім мацярынскім покрывам усіх хрысьціянаў, усіх мужчынаў і жанчынаў добрае волі... Вядзі іх да свайго Сына Ісуса, Які ёсьць для ўсіх Дарогаю, Праўдаю і Жыцьцём»,— сказаў Папа, просячы блаславеньня для ўсіх украінскіх хрысьціянаў.

## ПЕРШЫ КАТАЛІЦКІ ЎНІВЕРСІТЭТ ВА ЎКРАІНЕ

На працягу наступнага навучальнага году ў Львове запланавана адкрыць Украінскі Каталіцкі ўніверсітэт. За 4-5 гадоў будзе завершана будаўніцтва ўніверсітэцкага будынку, будаўніцтва якога распачалося яшчэ ў канцы 70-ых, аднак тады савецкая ўлада планавала разьмясьціць у ім тэатр расейскай драмы. Як адзначыў Зьверхнік Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы Яго Блаславенства Любамір Кардынал Гузар, асьвячэньне Каталіцкага ўніверсітэту Папам Рымскім Янам Паўлам II — знакавая падзея, якая дапаможа гэтай навучальнай установе атрымаць прызнаньне ва Ўкраіне і ва ўсім сьвеце.

Будынак, які паблаславіў Папа Ян Павел II 26 чэрвеня 2001 году, зможа зьмясьціць каля 3 тысячаў студэнтаў, якія будуць навучацца на некалькіх факультэтах. Універсітэт будзе створаны на базе сёньняшняй Львоўскай багаслоўскай акадэміі.



• Папа Ян Павел II моліцца ў Бабіным Яры.

# Прэса пра візіт Сьвятога Айца Яна Паўла II ва Ўкраіну

*Італійская прэса:*

### РАЗ І НАЗАЎЖДЫ ЗРУЙНАВАНЫ ЗЛОСНЫ ПАКЛЁП ПРА ПЕРАСЬЛЕДАВАНЬНЕ ПРАВАСЛАЎНЫХ У ЗАХОДНЯЙ УКРАІНЕ

Італійская прэса сьцьвярджала пра посьпех пілігрымкі Папы ва Ўкраіну, асабліва апошняга яе этапу — беатыфікацыйнае Літургіі ў Львове, калі кардынал Любамір Гузар прасіў прабачэньня за правіны Грэка-Каталіцкай Царквы.

Газета італійскіх біскупаў «Авэнірэ» зрабіла спробу падвесьці вынікі гэтага «нялёгкага візіту», а таксама вызначыць чыньнікі, якія паспрыялі яго посьпеху.

Аглядальнік «Авэнірэ» падкрэсьліў розьніцу паміж колішнімі рэзка антыкамуністычнымі поглядамі Папы і сучаснымі напамінамі пра злачынствы камуністаў.



• Львоў, 27.06.2001. Літургія, падчас якой Папа Ян Павел II абвясьціў блаславёнымі 28 мучанікаў Грэка-Каталіцкай Царквы, сабрала больш за 1,5 мільёны вернікаў.

«Ня можна глядзець у будучыню, не разважаючы над мінулым апакаліпсісам»,— піша італійскі публіцыст, пасьля чаго дадае: «Тут мы сутыкаемся з дыяметральнай розьніцаю паміж Рымам і Масквою, паміж каталіцтвам, якое дзякуючы Папе стала на пазіцыі «mea culpa» (мая правіна) і праваслаўем Алексія II, што па сутнасьці займае абарончую пазіцыю і занятае толькі сабою».

Італійскія газеты пагаджаюцца між сабой і адзначаюць, што падарожжа ва Ўкраіну прынесла, прынамсі, адно — раз і назаўжды зруйнавала злосны паклёп, нібыта ў Львове і яго ваколіцах каталікі перасьледуюць праваслаўных і падкрэсьліваюць, што Галава УГКЦ кардынал Гузар першы пераняў прыклад, які прапанаваў Ян Павел II адразу пасьля прыезду ў Кіеў: прабачыць самім і папрасіць прабачэньня. «Мы перакананыя, што гэты прыклад дасягне таксама і Праваслаўнай Царквы, бо, як сказаў адзін з кіеўскіх мітрапалітаў: хмары, якія нас разьдзяляюць, не сягаюць самога неба»,— адзначыў італійскі публіцыст.

*Славацкая прэса:*

### ЗАЦІКАЎЛЕНАСЬЦЬ І ПРЫХІЛЬНАСЬЦЬ УКРАІНЦАЎ ДА ПАПЫ ЎЗРАСТАЛА З КОЖНЫМ ДНЁМ ЗНАХОДЖАНЬНЯ ЯГО НА ІХНЯЙ ЗЯМЛІ

Славацкая прэса, апісваючы паломніцтва Папы ва Украіну, ад пачатковай халоднай стрыманасьці паступова перайшла да захапленьня посьпехам Яна Паўла II. Яшчэ перад візітам газета «Праца» дзівілася адвазе Сьвятога Айца, які рыхтаваўся ў чарговае падарожжа, падкрэсьліваючы, што такое рашэньне ёсьць перадусім перамогаю Папы над слабым целам і хваробаю Паркінсона. Газета «Народна обрада», разважаючы пра палітычна-рэлігійныя праблемы, зьвязаныя з папскім візітам, называла паездку ва Украіну «хаджэньнем па мінным полі».

Славацкія журналісты адзначалі кантраст паміж «халодным» Кіевам» і «палкім» Львовам, шмат цытавалі Яна Паўла II, які заклікаў да паяднаньня паміж польскім і ўкраінскім народамі, згадвалі пра сацыяльны кантэкст у прамовах Папы.

У прэсе часта процістаўлялася адкрытасьць Сьвятога Айца непрыязнай пазіцыі Алексія II, кіраўніка РПЦ. Газета «Праца» назвала пазіцыю маскоўскага Патрыярха праяваю браку добрае волі і падкрэсьліла, што «зацікаўленасьць і прыхільнасьць украінцаў да Папы ўзрастала з кожным днём знаходжаньня яго на іхняй зямлі».

*Чэшская прэса:*

### ПАПА ПАЎТАРАЕ, ШТО НЕ ПРЫЕХАЎ, КАБ НАВЯРТАЦЬ ПРАВАСЛАЎНЫХ НА КАТАЛІЦЫЗМ, А ДЗЕЛЯ ЕДНАСЬЦІ ХРЫСЬЦІЯНАЎ

Пратэсты маскоўскага Патрыярха, прабачэньне Папы за крыўды, учыненыя каталікамі, малітва за забітых у Бабіным Яры габрэяў — гэтыя тэмы найчасьцей разглядаліся ў чэшскай прэсе, прысьвечанай візіту Папы ва Ўкраіну. Газета «Права», якая зьяўляецца спадчыньніцай камуністычнай «Рудэ Права», у вельмі ўраўнаважаным тоне напсала пра незадаволенасьць Патрыярха

Маскоўскага ад візіту Папы ва Ўкраіну, падкрэсьліваючы пры гэтым: Папа паўтарае, што не прыехаў, каб навяртаць праваслаўных на каталіцызм, але дзеля еднасьці хрысьціянаў. Увагу газеты прыцягнула малітва Папы за забітых габрэяў у Бабіным Яры. Гэтай тэме прысьвечаны як мінімум адзін матэрыял у кожнай чэшскай газеце.

***Расея, «Независимая газета»:***

## ПАПА ЗДАБЫЎ УКРАІНУ

«Папа здабыў Украіну»,— пад такім загалоўкам зьмясьціла матэрыял пра візіт Яна Паўла II газета «НГ-религии» (дадатак да «Независимой газеты»). «Папа дасягнуў пералому ў сітуацыі, якая панавала перад паломніцтвам, калі ўсе мас-медыя зьвярталі ўвагу перадусім на пратэсты патрыярха Алексія II і мітрапаліта Ўладзіміра,— піша з Украіны карэспандэнт расейскай газеты.— Дзякуючы Яну Паўлу II каталіцка-праваслаўныя стасункі ня сталі галоўнаю тэмаю візіту».

Паводле словаў карэспандэнта, на першае месца выйшла справа перамогі над таталітарнай спадчынай і мірнае ўрэгуляваньне міжнацыянальных і міжканфесійных канфліктаў, якія трываюць на працягу дзесяцігоддзяў. «Сэрцы многіх украінцаў здабыў той дзіўны Паломнік, са зьнешняга выгляду якога лёгка кпіць, але яснасьць думкі і сіла волі якога ня можа не зьдзіўляць»,— піша далей газета. Апытаныя карэспандэнтам на вуліцах шматлікія жыхары Кіева засьведчылі, што пазіцыя і словы Папы зьмянілі іхняе стаўленьне да жыцьця і падкрэсьлілі, што, не зважаючы на пратэсты часткі праваслаўных, ягоны прыезд зьяўляецца бясспрэчным падарункам для ўкраінскай дзяржавы. «Усе апытаныя ўважалі, што Папа запаліў зялёнае сьвятло на шляху да ўступленьня Ўкраіны ў Еўрапейскі саюз»,— напісаў расейскі журналіст.

***Нямецкая прэса:***

## УДЗЕЛЬНІКІ ПАПСКІХ ЛІТУРГІЯЎ БЫЛІ ЦАЛКАМ АБЫЯКАВЫЯ ДА ПРАТЭСТАЎ МАСКОЎСКАГА ПАТРЫЯРХА

Нямецкая прэса падкрэсьлівала экуменічную місію Папы ва Ўкраіне і адначасна адзначала «непрыхільную пазіцыю» РПЦ. Ліберальная «Зюддойчэ Цайтунг» падкрэсьліла, што прычыны, праз якія праваслаўныя не прымаюць працягнутай Папаю рукі (які ў Кіеве яшчэ раз перапрасіў за крыўды, учыненыя дзецьмі яго Царквы), гэта ня толькі падзеі аддаленага мінулага. РПЦ сёньня зьяўляецца хутчэй няздатнай да дыялогу. Ёй замінаюць цёмныя старонкі ўласнага мінулага, піша газета. Гаворка найперш пра ўдзел у прыцясьненьні нерасейскіх народаў, у тым ліку ўкраінцаў, і пра небясьпечна пашыраны антысемітызм. Да таго ж расейскае праваслаўе грашыць «прыстасаваньнем да ўмоваў камуністычнага рэжыму ды інфільтрацыяй Царквы пры КГБ». Але, на думку нямецкага агляданіка, не зацікаўлены рабіць рахунак уласнага сумленьня найперш Крэмль, з якога ўсё часьцей чуваць велікадзяржаўныя ноткі. Так, расейскі пасол Чарнамырдзін дазволіў сабе сказаць, што «Папа не павінен падаць як бомба ў рэлігійныя справы Ўкраіны».

Газета «Біль-Цайтунг» лічыць, што падарожжа Папы ва Ўкраіну мае адценьне вялікай палітыкі. Колішнія камуністы не забылі, што Ян Павел II спрычыніўся да развалу імперыі зла. Кіраўнікі Праваслаўнай Царквы, адзначае газета, баяцца харызмы каталіцкага канкурэнта. Візіт Папы ва Ўкраіну — гэта місія міру для ўсіх, хто прагне міру, знак надзеі для ўсіх, хто ў стане яго распазнаць. Не ўдалося заваяваць сьвет марксістам, трацкістам, маоістам, неафашыстам ды атэістам,— можа, гэта атрымаецца з Божаю дапамогаю хрысьціяніну, разважае нямецкі журналіст.

• *25.06.2001 Папа Ян Павел II наведаў Армянскі катэдральны сабор у Львове. Гэтае жаданьне Сьвятога Айца стала поўнай нечаканасьцю для арганізатараў візіту.*

Карэспандэнт газеты «Боннэр Рундшаў» у рэпартажы з Кіева сьцьвярджае, што, едучы ва Ўкраіну, Ян Павел II, мажліва, рэалізаваў мару свайго жыцьця. Каментуючы сустрэчы Папы ва Ўкраіне, газета ўзгадвае пасланьні, якія ён прынёс гэтай краіне. Краіне, якая за дзесяць гадоў з часу атрыманьня незалежнасьці не знайшла свайго месца паміж Усходам і Захадам. Папа ўказаў украінцам, куды вядзе шлях, а менавіта — у Еўропу, напісала газета. Што да супярэчнасьцяў і пратэстаў РПЦ супраць візіту Папы, «Боннэр Рундшаў» заўважыла, што ўдзельнікі папскай Літургіі былі цалкам абыякавыя да гэтых пратэстаў.

«Вэстфалішэ Нахрыхтэн» назвала свой каментар на тэму візіту Сьвятога Айца загалоўкам «Цяжкая дарога да еднасьці». Паводле яе, дыялог, які Папа вёў за некалькі тыдняў да візіту ва Ўкраіну з кіраўніцтвам Эладзкай Праваслаўнай Царквы, даводзіць, што Яну Паўлу II удалося зламаць закасьцянелыя формы прадузятасьцяў. Гэтаксама і візіт ва Ўкраіну распачаўся з просьбы аб прабачэньні. Невядома пакуль, ці дасягнула гэтая просьба вушэй тых, каму адрасавалася, і ці распачнецца пасьля гэтага працэс адлігі, задумваецца аглядальнік вэстфальскае газеты, нагадваючы, што шматгадовы, працяглы тэалагічны дыялог пасьля II Ватыканскага сабору засьведчыў: розьніца паміж каталіцтвам і праваслаўем мае ня толькі дагматычны характар, хутчэй за ўсё ейным падмуркам ёсьць напружаньне ў палітычнай сферы.

Працяг на с.10 ⇨

## СУСТРЭЧА ПАПЫ З ПРАДСТАЎНІКАМІ ЎСЕЎКРАІНСКАЙ РАДЫ ЦЭРКВАЎ І РЭЛІГІЙНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

24 чэрвеня 2001 году ў Кіеве Папа Ян Павел II сустрэўся з прадстаўнікамі Усеўкраінскай Рады Цэркваў і рэлігійных арганізацыяў. Паседжаньне, якое адбывалася ў памяшканьні Кіеўскай



Нацыянальнай філармоніі, вёў Першаярарх Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы Любамір Кардынал Гузар. Кіраўнік Дзяржкамітэту Украіны па справах рэлігіяў Віктар Бандарэнка пазнаёміў Сьвятога Айца з удзельнікамі сустрэчы — лідараў 16 хрысьціянскіх, мусульманскіх і юдэйскіх Цэркваў і рэлігійных арганізацыяў (за выняткам Украінскай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага Патрыярхату, якая адмовілася ад удзелу ў сустрэчы).

Рымскі Архірэй Ян Павел II высока ацаніў дзейнасьць Усеўкраінскай Рады Цэркваў і рэлігійных арганізацыяў, якую яна ажыцьцяўляе для спрыяньня і захаваньня духоўных і рэлігійных каштоўнасьцяў, неабходных для пабудовы па-сапраўднаму свабоднага і дэмакратычнага грамадзтва. Папа асабліва адзначыў намаганьні гэтай арганізацыі па стварэньні ўмоваў для большага паразуменьня паміж вернікамі розных Цэркваў і рэлігійных арганізацыяў.

Падчас сваёй прамовы Сьвяты Айцец таксама зьвярнуўся са словамі прывітаньня і да прадстаўнікоў нехрысьціянскіх арганізацыяў, якія супрацоўнічаюць з хрысьціянамі. Папа Рымскі нагадаў пра масавае забойства габрэяў у Бабіным Яры, якое мусіць быць перасьцярогаю будучым пакаленьням, пра прымусовае высяленьне з Крыму мусульманаў. Ён таксама ўзгадаў пра ахвяры Галадамору ва Ўкраіне, пра бязьвінна расстраляных у Быкоўні, дзе сёньня створаны мемарыял у памяць пра ахвяры бальшавіцкіх рэпрэсіяў, пра загінулых у Аўганістане. Памяць пра ўсе гэтыя ахвяры таталітарызму павінна дапамагчы чалавецтву адкінуць любую форму насільля.



• *Кіеў, 24.06.2001. Патрыярх Украінскай Праваслаўнай Царквы Кіеўскага Патрыярхату Філарэт прывітаў Папу Рымскага Яна Паўла II. Ён сьцьвярджае, што сучасныя стасункі ягонай Царквы з каталікамі абодвух абрадаў ва Ўкраіне цалкам нармальныя.*

# Сустрэча Папы з моладдзю



***У** найвялікшым мікраранёне Львову 26 чэрвеня 2001 году, пачынаючы з 14-й гадзіны, каля 600 тысячаў маладых людзей з усёй Украіны чакалі прыезду Сьвятога Айца Яна Паўла II.*

Сустрэча распачалася выступамі найлепшых харавых калектываў, вядомых эстрадных выканаўцаў (сярод іх быў вельмі папулярны сёньня гурт «Акіян Эльзы»), оперных сьпевакоў. Пры набліжэньні моманту прыезду папы загучаў гімн «Глорыя». Пад шматтысячнае гучнае вітаньне моладзі Рымскі Архірэй у 18.30 прыбыў на пляц перад новазбудаванай царквой Раства Багародзіцы на Сыхаве ў Львове. Са зьяўленьнем у алтары Сьвятога Айца падчас ягонага бласлаўленьня ў неба былі выпушчаныя 1500 галубоў, загучалі сурмы і званы. У гэты момант распачалася супольная малітва, якая была скіравана да Ісуса Хрыста.

Пасьля прачытаньня Евангельля Ян Павел II зрабіў прамову. Менавіта да Хрыста Яго Сьвятасьць хацеў зьвярнуць увагу людзей і асабліва моладзі. Ён заклікаў моладзь сустрэцца з Ім і пачуць Яго, бо толькі ў Ім «слова жыцьця вечнага», толькі Ён можа даць адказ на ўсе пытаньні, якія турбуюць кожнага юнака і дзяўчыну. Трэба толькі паслухаць Яго. Словы Ісуса споўненыя Любоўю і аднačасова патрабавальныя: «Хрыстос запрашае цябе ісьці супраць цячэньня».

«Ваш народ зьдзяйсьняе цяжкі і складаны пераход ад таталітарнага рэжыму да, нарэшце, свабоднага і дэмакратычнага грамадзтва. Але гэтая свабода вымагае адказнасьці, сталасьці і добрага сумленьня. Таму, абдымаючы вас, як бацька, кажу: выбірайце шлях, які ўказваюць вам Гасподнія прыказаньні»,— прамовіў Сьвяты Айцец, зьвяртаючыся да сотняў тысячаў маладых людзей, якія слухалі яго затаіўшы подых і не зважаючы на моцны дождж. Сьвяты Айцец зьвярнуў увагу на тое, што Любоў ёсьць Свабодаю, якая вымагае адказнасьці. Таму, падкрэсьліў Папа, «будучыня Украіны ў вялікай ступені залежыць ад вас і той адказнасьці, якую вы здолееце ўзяць на сябе».

Падчас прамовы Папа Рымскі, з прычыны моцнага дажджу, неспадзявана для ўсіх адыйшоў ад пратаколу і з жартам дадаў па-польску: «Дождж ідзе — дзеці растуць!», падбадзёрваючы тым самым лёгка, па-летняму апранутую, а таму зусім мокрую ад дажджу, моладзь. А потым пасьля воплескаў і скандаваньня «Лю-бі-мо Те-бе!» ён засьпяваў па-польску: «Не падай, дождж, бо цябе тут ня трэба. Абыйдзі горы, абыйдзі лясы і вярніся да неба!»

Пасьля завяршэньня сваёй духоўнай навукі, Рымскі Архірэй тройчы паўтарыў: «Папа вас моцна любіць!», а моладзь у адказ шматтысячным хорам пажадала Сьвятому Айцу «Многія леты!» і далей скандавала «Мы любім Папу!» і «Украіна любіць Цябе!» Тады Папа зноў падыйшоў да мікрафону і сказаў: «Многія леты, многія леты... Таму, уласна, дождж і падае, каб дзеці расьлі...» А затым Сьвяты Айцец моцным маладым голасам засьпяваў па-польску. Гэткая жартаўлівая і вельмі шчырая рэакцыя Яна Паўла II надала сустрэчы пачуцьцё асаблівае цеплыні, радасьці і еднасьці.

Пасьля прамовы Рымскаму Архірэю былі паднесены шматлікія падарункі ад грэка-каталіцкай і рыма-каталіцкай моладзі. Сярод іх — кніга дзіцячых лістоў, скіраваных Яго Сьвятасьці.

Важнай часткай сустрэчы стала ўручэньне на знак узаемнага прабачэньня і прымірэньня паміж украінскім і польскім народамі Ўзнагароды Паяднаньня рэктару Львоўскага нацыянальнага ўніверсітэту імя І.Франко Івану Вакарчуку і дырэктару Люблінскага інстытуту Усходняй Еўропы Ежы Клачоўскаму. Маладыя ўкраінскія музыкі і выканаўцы з розных рэгіёнаў Украіны прывіталі Папу сьпевамі і танцамі, пасьля чаго Сьвяты Айцец паблаславіў моладзь і разьвітаўся з ёю пад гукі сурмы і званоў ды шматгалосае скандаваньне «Заставайся з намі! Украіна любіць Папу!»

Духоўна-мастацкая праграма, прысьвечаная візіту Яна Паўла II ва Украіну, працягвалася яшчэ аж да поўначы і завяршылася сьвяточным салютам.

# Прэса пра візіт Сьвятога айца Яна Паўла II ва Украіну

⇨ Заканчэньне са с.8-9

РПЦ самаізалюецца, нібы секта, лічыць каментатар газеты «Дзі Тагэсцайтунг». У крытычным артыкуле на тэму пазіцыі гэтае Царквы і яе кіраўніка Алексія II публіцыст адзначае, што «замест таго, каб канкурэнцыйным спосабам спрыяць тэалагічнай крэатыўнасьці свайго духавенства, маскоўскі Патрыярх дзейнічае спрошчана і груба, указваючы, напрыклад, Папе, што калі ён сустрэнецца з «схізматычнымі кіраўнікамі іншых Цэркваў праваслаўнае традыцыі, гэта будзе азначаць крах стасункаў паміж нашымі Цэрквамі». Газета ўважае, што гісторыя расейскіх ярархаў адносна візіту Папы ва Украіну сьведчыць пра глыбокі крызіс інтарэсаў, а таксама пра вялікі посьпех, якім, не зважаючы на шматлікія перашкоды, карыстаюцца каталікі і пратэстанты ў Расеі, ды пра вялікія рэлігійныя патрэбы ў гэтым грамадзтве. РПЦ была і ёсьць багатай на асобы з глыбокаю вераю і грамадзкай адвагаю, аднак яна не заслугоўвае на такіх кіраўнікоў, якіх мае ў дадзены момант, сьцьвярджае газета «Дзі Тагэсцайтунг».

***Французская прэса:***

## ПАЛОМНІЦТВА ЭКУМЕНІЗМУ І ПАЯДНАНЬНЯ

З кожным днём паломніцтва Папы ва Украіну прэса Францыі зьвяртала на гэтую падзею ўсё больш увагі. «Нястомны паломнік экуменізму» («Ля круа»), «Папа абвяшчае паяднаньне ва Украіне» («Ле Монд»),— пад такімі загалоўкамі французскія выдаўцы пісалі пра візіт Сьвятога Айца.

Газеты дружна падкрэсьлівалі ня толькі важнасьць падзеі і дух паяднаньня, але й прыхільную атмасферу, у якой адбывалася пілігрымка, прысутнасьць на папскіх багаслужбах вернікаў іншых веравызнаньняў і рэлігіяў.

Шмат увагі французская прэса ўдзяліла паездцы Папы ў Бабін Яр, нагадваючы, што габрэйская грамада ва Украіне — чацьвёртая па колькасьці ў сьвеце, пасьля ЗША, Ізраілю, Расеі («Фігаро»).

Усе французскія газеты адзначылі беззаганную украінскую мову папскіх выступаў і казаньняў.

Каталіцкая газета «Ля круа», якая ў двух чарговых нумарах прысьвяціла падрабязныя матэрыялы пра візіт Папы ва Украіну, падкрэсьлівала надзвычайную ролю гэтага візіту ў пабудове новых адносінаў паміж хрысьціянскімі веравызнаньнямі ня толькі ва Украіне, але і ў памерах Паўсюднае Царквы. Прэса асабліва адзначыла заклік Яна Паўла II да паяднаньня католікаў розных абрадаў, а таксама палякаў і украінцаў, гісторыя дачыненьняў якіх мела сумныя старонкі. «Ле Монд» адзначыла палкае і радаснае прывітаньне, з якім Сьвяты Айцец сустрэўся ў каталіцкім Львове, і заўважыла, што Грэка-Каталіцкая Царква толькі нядаўна выйшла з падполья. Французскі тэлеканал «Франс-2» у вячэрніх навінах адзначыў трыумф Папы ў Львове, які «можна параўнаць толькі з ягонымі візітамі ў Польшчу». «Ля круа» адзначае, што візіт, які лічыўся паломніцтвам вялікае рызыкі, не спрычыніўся да аніякага зрыву кантактаў паміж хрысьціянскімі вызнаньнямі ва Украіне.



• Украіна любіць Папу!

Паводле словаў праваслаўнага французскага тэолага Аліўе Клемана, ня толькі дадзены візіт, але й папярэднія пілігрымкі Папы ў Румынію, Грэцыю і Сірыю будуць вырашаць будучыню і разьвіцьцё каталіцка-праваслаўнага дыялогу. А.Клеман на старонках газеты выказаў таксама непакой, што «словы Папы ніколі ня будуць ні пачутыя, ані выслуханыя ў Маскве».

# Ліст Мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага да Беларускага народу

Грэка-Каталіцкая Царква аб'явіла 2001 год годам Мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага.

У беларускай гісторыі пакуль што мала дасьледаваныя сувязі Мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага з беларускай інтэлігенцыяй ды беларускім грэка-каталіцкім духавенствам. А што такія сувязі былі, і былі плённыя, сьведчаць апублікаваныя згадкі беларускіх ды ўкраінскіх дзеячоў таго часу: вядомага ўкраінскага вучонага, дырэктара Нацыянальнага ўкраінскага музею Іларыёна Сьвянціцкага; беларускага вучонага, актыўнага грамадзкага дзеяча пачатку ХХ стагоддзя Антона Луцкевіча ды зьвесткі пра архіўныя матэрыялы, пра экспанаты, якія былі сабраныя ў Вільні беларускай нацыянальнай супольнасьцю.

У 1908 годзе, як сьведчаць «Основні дати життя Митрополита Андрея Шептицького», восеньню, Мітрапаліт Галіцкі Андрэй Шаптыцкі быў у таемным падарожжы па Ўкраіне, Беларусі, Літве і Расеі.

У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Львова захоўваецца арыгінал рукапісу — пасланьне Мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага, датаванае 15 сакавіка 1909 году. У гэтым лісьце — выява пастырскае любові да беларускага народу, клопат пра сьвятую Унію на беларускіх землях, вера ў выратаваньне праз веру, праз любоў да Ісуса Хрыста.

Гэты ліст пакуль што невядомы шырокай грамадзкасьці. Ён будзе апублікаваны ў 3-м томе «Мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі. Жыцьцё і дзейнасьць. 1899 - 1944». З ласкі спн. Аксаны Гаевай, навуковага супрацоўніка Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіву г.Львова, друкуецца гэты Пастырскі ліст (у перакладзе на беларускую мову), у якім і запавет Мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага, і яго блаславеньне беларускаму народу.

**Марыя Новік**
*г.Берасьце*



• *Львоў, крыпта Сабору сьв. Юра. Папа моліцца на магілах Мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага і Кардынала Ёсыфа Сьліпога.*

## МАЛІТВА ЗА БЕАТЫФІКАЦЫЮ МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ ШАПТЫЦКАГА

*О, Госпадзе Ісусе Хрысьце, Ты, што пажадаў узвысіць у пашане Тваіх верных слугаў — тварэньнем цудаў і надпрыродных дзіваў у іхнім сьмяротным жыцьці, Цябе молім: праз удзел Тваёй да нябёсаў узьнесенай Маці праслаў Твайго вернага слугу Андрэя Рамана Шаптыцкага, які ўсё жыцьцё быў падзьвіжнікам паяднаньня хрысьціянаў, праслаў наяўнымі доказамі і цудамі. Мы просім Цябе, дзеля пашырэньня Тваёй славы і ўзвышэньня Твайго імя, дзеля збаўленьня душаў і велічы Царквы, каб ён Тваёю моцай быў абвешчаны блаславёным. Амін.*

**Дак. № 161. 1909 г., сакавіка 15, Львоў. —**
**Пасланьне мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага да беларусаў.**

*«Андрэй Галіцкі Мітрапаліт,*
*Адміністратар Архіяпархіі Полацкай і Смаленскай*
*і япархіі Віцебскай, Мсьціслаўскай, Менскай, Тураўскай,*
*Пінскай і Берасьцейскай, Уладзімірскай, Аршанскай вернаму*
*народу Беларускаму*
*мір і Архірэйскае блаславеньне.*

Увосень году 1908 я быў на Белай Русі, праязджаў па гарадах і вёсках Вашага Краю, які некалі ведаў вялікага нашага сьвятога мучаніка Язафата Архібіскупа Полацкага — на жаль, я ня мог да Вас прамаўляць, як праўдзівы Ваш Пастыр, ня мог Вам слова Божага абвяшчаць, ня мог Вас усіх, як таго прагнуў, злучыць вязамі любові са сьвятою рымскаю Царквою. Аднак, не было бясплённым тое маё падарожжа. Любоў Хрыстова павяла мяне да Вас; але ў сэрцы маім засталася яшчэ большая любоў да Вас усіх, да кожнае душы ў прыватнасьці, да кожнае радзіны, кожнае вёскі і гораду гэтага Вашага і майго Краю — гэтай нашай Айчыны.

Ня ведаю, ці калі буду мець магчымасьць да Вас вярнуцца, ня ведаю, ці калі змагу сваіх пазнаць бліжэй, ці Бог мне дасьць, каб мае мяне пазналі.

Хачу Вам, аднак, пакінуць гэты доказ маёй пастырскай любові і майго клопату пра Вашае дабро — дачаснае і вечнае Вашае дабро. Усе прадметы царкоўнай мінуўшчыны Вашага Краю — усе памяткі Сьвятой Уніі на Белай Русі я старанна зьбіраў — і ўсе тыя памяткі Вам пакідаю.

З Божаю ласкаю дойдзе да таго, што будзеце мець праўдзівага ўніяцкага пастыра, Архібіскупа Полацкага. Яму ўсё перададуць з просьбаю ад мяне, каб тыя сьвятыя памяткі зьберагаў для наступных пакаленьняў.

Гэты ж ліст пакідаю для таго, каб ён Вам прынёс пасьля маёй сьмерці маё вітаньне пастырскае, маю любоў і Божае Слова — навуку, якую я ня мог так, як хацеў, Вам абвяшчаць.

Сьвятая Унія была і заўсёды будзе для Вас збаўленьнем — трымайцеся яе аж да сьмерці, а ў выпадку патрэбы і жыцьцё аддайце за Веру, як гэта зрабіў сьв. Язафат, як гэта зрабілі нашыя продкі і папярэднікі.

Сьвятая Каталіцкая Царква ёсьць для нас, дарагія браты, крыніцаю вялікіх дабротаў, вялікіх ласкаў, крыніцаю збаўленьня. Свайго Пастыра слухайце ва ўсім, шануйце Яго і любіце — Ён Вам заступае Ісуса Хрыста.

Жадаючы Вам усіх Божых ласкаў і дароў у гэтым сьвеце і ў вечнасьці, прашу Госпада Бога, каб Вас ва ўсім блаславіў.

Ласка Госпада Нашага Ісуса Хрыста ды любоў Бога і Айца, і супольнасьць Сьвятога Духа хай будзе з усімі Вамі, браты. Амін.

*Пісаў у Львове, д[ня] 15/3. 1909.*

***Андрэй Мітрапаліт»***

# Уніяцкая царква ў Стоўпцах і яе душпастыр а. Леў Гарошка



*Архімандрыт Леў Гарошка*

Як супрацоўнік Стаўпецкай раённай бібліятэкі, я зьбіраю матэрыялы на краязнаўчую тэматыку. Нядаўна я пачала зьбіраць матэрыял пра дзейнасьць уніяцкай царквы ў Стоўпцах.

Праваслаўная царква ў Стоўпцах існавала з даўніх часоў, яшчэ да будаўніцтва ў мястэчку дамініканскага касьцёлу, які быў закладзены тут у 1621 годзе за кошт менскага ваяводы Аляксандра Служкі. З другой паловы XVII ст. праваслаўная царква ў Стоўпцах дзейнічала ўжо як уніяцкая. Старажытная стаўпецкая царква была асьвячана ў гонар Перамяненьня Гасподняга. Гэтая ж назва храму фіксуецца ва уніяцкіх візітацыях канца XVIII - пачатку XIX ст. У іх адзначаецца, што будынак сьвятыні драўляны, стары, з адным вялікім купалам пасярэдзіне. На жаль, пра час пабудовы складальнікі візітацыяў нічога ня згадваюць. Уніяцкая царква Перамяненьня Гасподняга мела тры алтары: вялікі ўпрыгожвалі іконы Найсьвяцейшай Багародзіцы і Перамяненьня Гасподняга, бакавыя былі прысьвечаны Сьвятой Тройцы і сьвятой Алене. Парафія складалася з 450 двароў і мела каля 2,5 тысячаў вернікаў.

За доўгія гады свайго існаваньня драўляная царква Перамяненьня Гасподняга значна састарэла і на пачатку XIX ст. мела даволі незайздросны выгляд, а таму ў 1825 годзе на сродкі ўладальніка мястэчка князя Адама Чартарыйскага замест старога драўлянага храму паўстаў новы мураваны. На яго ўзьвядзеньне было затрачана 1800 рублёў. Новапабудаваны храм асьвяцілі ў гонар сьвятой Ганны.

У міжваенны час у Стоўпцах дзейнічала ўніяцкая парафія. Капліца, у якой зьбіраліся вернікі на малітву, была на так званых польскіх могілках. Мне ўдалося знайсьці пакуль толькі некалькі жыхароў Стоўпцаў, якія належалі да ўніяцкай парафіі. Аднак у памяці іх захавалася няшмат, да таго ж, яны былі тады яшчэ дзеці.

Жыхарка Стоўпцаў Алена Падбелая (1927 г. нараджэньня) узгадвае, што ўніяцкая капліца была маленькая, драўляная. Унутры яе меўся іканастас, было там прыгожа, асабліва на сьвяты (Пасху, Вадохрышча і інш.), ды тады, калі адбываўся шлюб. Набажэнствы былі такія самыя, як і ў праваслаўнай царкве. Маліліся пацаркоўнаславянску. На жаль, прозьвішча ўніяцкага сьвятара не запомнілася, бо была тады маленькай. За капліцай знаходзіўся помнік воінам 1812 году. Пасьля вайны капліцу разабралі.

Аркадзь Змачынскі адзначае, што ўніяцкая капліца мела высокі фундамент, бо заходзіць у царкву трэба было па прыступках. Пасярэдзіне капліцу вянчаў купал. Пры немцах уніяцкая царква яшчэ стаяла, у ёй адбываліся набажэнствы. Ведае, што сьпяваў у царкве Іван Падбела.

Хочацца спадзявацца, што адгукнуцца іншыя былыя ўніяты са Стоўпцаў. Магчыма, нехта яшчэ памніць выдатнага беларускага грэка-каталіцкага сьвятара айца Льва Гарошку, які нейкі час быў душпастырам у Стоўпцах.



*Гэтыя пліты з алтарнай чаткі — усё, што засталося ад уніяцкай капліцы, дзе служыў а. Леў Гарошка ў Стоўпцах (20.05.2001).*

Леў Гарошка нарадзіўся 26 лютага 1911 году ў вёсцы Трашчычы ў колішнім Стаўпецкім павеце. Быў ахрышчаны ў праваслаўнай царкве ў Турцы.

Сям'я Харошкаў (гэтак калісьці называліся Гарошкі) афіцыйна была праваслаўнай, хоць жылі ў ёй яшчэ традыцыі Уніі. Дзед будучага грэка-каталіцкага сьвятара быў чалавекам асабліва набожным, сьпяваў старыя ўніяцкія песьні і захоўваў традыцыі «старой веры».

Немалы ўплыў на душу й выхаваньне Льва Гарошкі (ды й ня толькі яго) аказваў той факт, што далёкія занёманскія сенакосы ягонага бацькі межавалі з Дзярэчынцамі, што праславіліся на ўсю Беларусь сваёю стойкасьцю ў абароне Уніі ў часы царскага перасьледу і выкараненьня яе ў краі.

Леў Гарошка скончыў сямігодку ў Міры, пасьля якой у 1928 годзе паступіў у беларускую гімназію ў Навагрудку.

У 1931 годзе ён паступіў у Львоўскую грэка-каталіцкую духоўную акадэмію.

Варта заўважыць, што Леў Гарошка быў прыняты ў каталіцкую Акадэмію без ніякіх «адрачэньняў» ад праваслаўя і «пераходаў» у каталіцтва. Паводле сьцьверджаньня айца Льва Гарошкі, амаль ніхто з вучняў Навагрудзкай беларускай гімназіі не прызнаваў тых царскіх актаў, якія былі накінутыя беларусам сілаю. Некаторыя з вучняў, у тым ліку і Л.Гарошка, былі пасьлядоўныя ў сваіх поглядах і лічылі Унію сваёй верай або, прынамсі, пагаджаліся з ідэяй яе аднаўленьня. Таму для Гарошкі, афіцыйна праваслаўнага, паступіць у названую Акадэмію не было нейкай супярэчнасьцю. Дапамаглі яму ў паступленьні дырэктар Навагрудзкае гімназіі Янка Цеханоўскі і дырэктар Беларускага музею ў Вільні Антон Луцкевіч.

У Львоўскай акадэміі Леў Гарошка правучыўся 5 гадоў (1931-1936). Як аднаго з найлепшых студэнтаў Акадэміі яго накіравалі на вышэйшыя студыі ў Аўстрыю ў Інсбрук. Там ён вучыўся ў 1936-1937 гг.

17 кастрычніка 1937 году ў Львове біскуп Мікіта Будка ў прыватнай капліцы мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага высьвяціў Льва Гарошку на сьвятара. Дарэчы, падчас сьвячаньняў прысутнічаў і сам мітрапаліт.

Першую Боскую Літургію нававысьвячаны сьвятар адслужыў у Дэлятычах на Навагрудчыне, дзе ў тыя часы парахам быў а. Вячаслаў Аношка. Гэтая Літургія сабрала вельмі шмат народу. Прысутнічаў на ёй таксама й бацька айца Льва.

У жыцьці Льва Гарошкі распачынаўся новы перыяд — служэньня Богу і свайму беларускаму народу. Умовы



Стоўпцы, 1939 год. Айцец Леў Гарошка сярод выкладчыкаў Стаўлецкай гімназіі.



Мюнхен. 4.08.1960. Айцец Леў Гарошка (зьлева) з душпастырам беларусаў у Нямеччыне а. Міхасём Маскалікам на біскупскай хіратоніі а. Часлава Сіповіча (у цэнтры).

для гэтага ў сьвеце ды ў Беларусі былі больш чым цяжкія.

Айцец Леў Гарошка спачатку быў прызначаны ў Любешаў на Палесьсі, дзе душпастырскай працай займаліся капуцыны ўсходняга абраду. Адтуль кожную суботу і нядзелю ён даязджаў у в.Угрынічы. У хуткім часе польскія ўлады зачынілі Ўгрыніцкую царкву і набажэнствы пачалі адпраўляцца ў маленькай капліцы сясьцёр-законьніц. Аднак і гэтую капліцу польскія ўлады апячаталі разам са сьвятымі Дарамі, бо ўбачылі ў дзейнасьці ўніяцкіх сьвятароў пагрозу паланізацыйным працэсам.

З Любешава айцец Леў Гарошка быў пераведзены пінскім рыма-каталіцкім біскупам Букрабам у в.Гарадная на Століншчыне. І тут польскія ўлады чынілі перашкоды ў ягонай душпастырскай дзейнасьці, сачылі за кожным крокам і за кожным словам сьвятара. Сьцьвярджаюць, што сам Палескі ваявода Костак-Бярнацкі, пераапрануты на палешука, прыязджаў, каб высачыць, што робіцца ў парафіі. Каб перашкодзіць нармальнай працы, улады прызначалі самыя розныя штрафы і пакараньні, прыкладам, за непабелены плот, за недахоп драбіны і г.д. Нягледзячы на вялікую прывязанасьць вернікаў да свайго параха, айцец Леў вымушаны быў прасіць царкоўныя ўлады, каб яго перавялі ў іншае месца.

Тады ён быў прызначаны ў Стоўпцы на памочніка а. Селецкаму, украінцу. Тут ён заставаўся да 15 траўня 1939 году, калі загадам Наваградзкага ваяводы быў прымусова і назаўсёды выселены з памежнай паласы. Прычынай для гэтага была шчырая беларускасьць айца Льва, ягоныя палкія беларускія казаньні для вернікаў.

Кароткі час пасьля высяленьня айцец Леў Гарошка жыў у Збуражы, што каля Ма-ларыты, дзе служыў парахам мясцовай уніяцкай парафіі.

З пачаткам II Сусьветнай вайны айцец Леў Гарошка перабіраецца ў Баранавічы, дзе жыве з 1939 па 1944 гг.

Пасьля ўтварэньня ў 1940 годзе Беларускага Грэка-Каталіцкага Экзархату а. Леў Гарошка становіцца намесьнікам Экзарха. Аднак душпастырскай дзейнасьцю ў гэтыя складаныя часы яму давялося займацца ў падпольлі.

У Баранавічах спачатку ён выкладаў беларускую мову ў гандлёвай школе, потым — беларускую і лацінскую ў медычнай вучэльні і на настаўніцкіх курсах. Працаваў таксама ў Баранавіцкім музеі, у газетных рэдакцыях. Быў дэлегатам 2-га Усебеларускага кангрэсу (1944).

Пасьля заканчэньня вайны разам з хваляй беларускай эміграцыі ён трапляе на Захад, дзе пачынаецца найбольш дзейсны і плённы перыяд жыцьця выдатнага беларускага грэка-каталіцкага сьвятара а.Льва Гарошкі. Ён арганізуе беларускае душпастырства ў Берліне, а затым у Мюнхене (1944-1945). 20 кастрычніка 1945 году ён перабіраецца ў Рым, дзе ў 1946 годзе ягонымі намаганьнямі выходзіць малітоўнік «Божым шляхам».

16 кастрычніка 1946 году Кангрэгацыя Ўсходніх Цэркваў накіроўвае яго ў Парыж і прызначае рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі для душпастырскай дзейнасьці сярод мясцовых беларусаў-эмігрантаў.

Да 1958 году Л.Гарошка жыў і вельмі плённа працаваў у Парыжы, дзе фактычна адзін рэдагаваў беларускі рэлігійна-грамадзкі часапіс «Божым шляхам» (заснаваны ім у 1947 годзе).

У 1959 годзе а. Леў Гарошка ўступае ў навіцыят Айцоў Марыянаў, дзеля гэтага едзе ў Рым, дзе 18 студзеня 1960 году складае першыя манаскія шлюбы. 13 лютага 1960 году Генерал Айцоў Марыянаў Шкутанс пераводзіць Л.Гарошку ў Лондан, дзе ён узначальвае Беларускую каталіцкую місію ў Вялікабрытаніі. У 1960-70-ыя гады жыцьцё а. Л.Гарошкі зьвязана з Лонданам. Айцец Леў бярэ актыўны ўдзел у рэлігійным і грамадзка-культурным жыцьці мясцовых беларусаў. Тут, у Лондане, у капліцы Дому Марыянаў, 10 чэрвеня 1962 году ён складае вечныя манаскія шлюбы. 16 сьнежня 1965 году а. Леў Гарошка атрымоўвае годнасьць архімандрыта.

У 1970 годзе а. Л.Гарошка пераязджае ў Рым, дзе працуе на пасадзе кіраўніка Беларускай секцыі Радыё Ватыкану і адначасова зьяўляецца рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі.

28 ліпеня 1977 году, падчас аперацыі ў парыжскім шпіталі, гэты ўсебакова адораны і працавіты беларускі сьвятар-патрыёт памірае ад сардэчнага прыступу на 66-ым годзе жыцьця. 8 жніўня 1977 году яго пахавалі на могілках сьв. Панкрата ў Лондане.

**Сьвятлана Адамовіч**
*г.Стоўпцы*

**<u>Ад рэдакцыі:</u>**

*Айцец Леў Гарошка зьяўляецца аўтарам некалькіх дзясяткаў кніжак і навуковых прац на самую розную тэматыку. Большасьць з іх, на жаль, яшчэ мала вядомыя на Бацькаўшчыне. Вось толькі найбольш значныя, выдадзеныя ім працы: філасофска-тэалагічны твор «Душа» (Парыж, 1948), прыродазнаўчая кніжка «Паходжаньне чалавека ў сьвятле сучасных фактаў» (Парыж. 1948), «Навука і рэлігія» (Рым, 1977), мовазнаўчая праца «Своеасаблівасьці беларускае мовы» (Парыж, 1951), гістарычныя кнігі «Сьв. Еўфрасіньня-Прадслава Полацкая. Патронка Беларусі» (Парыж, 1950), «Беларусь у датах, ліках, фактах» (Парыж, 1953). Леў Гарошка напісаў вялікія гістарычныя працы «Прычыны паланізацыі на Беларусі» (1955), «Пад знакам «рускае» і «польскае» веры» (1954-55) ды склаў грэцка-лацінска-царкоўнаславянска-беларускі слоўнік, слоўнік беларускіх прыказак і прымавак. Яго пяру належаць дзясяткі цікавых апавяданьняў на хрысьціянскую тэматыку, якія ён падпісваў псеўданімам Анатоль Жменя. Усе пералічаныя творы друкаваліся прынамсі на эміграцыі. Але яшчэ шмат цікавых матэрыялаў на гісторыка-рэлігійную тэматыку, а таксама няскончаныя ўспаміны а. Л.Гарошкі, якія чыталіся аўтарам у беларускіх перадачах Радыё Ватыкану застаюцца зусім невядомыя для беларускіх дасьледчыкаў.*

*Рэдакцыя «Царквы» будзе імкнуцца знаёміць чытачоў з невядомымі і найбольш цікавымі творамі нашага выдатнага сьвятара-патрыёта.*

Пётр ПАЧОПКА

# Страчанае Палесьсе

УНІЯЦКАЯ ПАРАФІЯ Ў БАБРОВІЧАХ

Над Бабровіцкім возерам (павет Косаў-Палескі) ляжалі тры вёскі: Бабровічы, Вяда і Тупічыцы. Складалі яны адну Бабровіцкую парафію. Некалі гэта была ўніяцкая парафія, аднак царскія ўлады заганялі парафіянаў у праваслаўе, што ў рэшце і дало вынік.

У часе I Сусьветнай вайны, перад прыходам немцаў, жыхароў гэтых вёсак, як і шмат іншых, вывезьлі ў Расею. Калі яны пазьней вярнуліся ў свае вёскі, засталі іх цалкам альбо амаль цалкам спаленымі. Гэтак у Бабровічах засталося толькі некалькі хацінаў на ўскрайку вёскі, заняпалая цэркаўка і парафіяльны дом, што стаяў амаль за вёскай. Калі Бабровічы былі ўжо часткова адбудаваныя, зьявіўся праваслаўны сьвятар, якога звалі там папом, які, як выявілася, у жыцьці быў прыкры пьяніца. Дайшло да таго, што бабровічане з удзелам парафіянаў з Вяда і Тупічыцаў выгналі гэтага папа, а, узгадваючы пра ўніяцкія карані парафіі, выслалі дэлегацыю ў Пінск, каб прасіць біскупа Зыгмунта Лазінскага прыслаць уніяцкага сьвятара. З прычыны недахопу сьвятароў біскуп Лазінскі ня мог адразу выканаць іхнюю просьбу. Здарылася, аднак, так, што народжаны на Віленшчыне і ахрышчаны ў рыма-каталіцкай парафіі ў Лаварышках Баляслаў Пачопка, які пасьля некалькіх гадоў працы ў якасьці настаўніка, пазьней — рэдактара каталіцкага штотыднёвіка «Беларус», а затым зноў настаўніка, са згоды папы Бенядыкта XV на пачатку 1921 году прыняў усходні абрад. У 1922-26 гг., працуючы па-ранейшаму як настаўнік у школе ў Масюках (Ваўкавыскі павет), адначасова студыяваў ва ўніяцкай духоўнай семінарыі ў Львове. У ліпені 1926 году Баляслаў Пачопка — 42-гадовы мужчына і бацька чацырых дзяцей — быў высьвячаны Мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім на сьвятара. У тым самым годзе ён стаў парахам уніяцкай парафіі ў Бабровічах. Па прыездзе ў Бабровічы а. Баляслаў разам з сям'ёю напачатку заняў кватэру лясьнічага Чашэйкі-Сахацкага, бо стан, у якім знаходзілася плябань, не дазваляў пасяліцца ў ёй, пакуль тры месяцы ішлі найбольш важныя рамонтныя працы. У вельмі кепскім стане была таксама й цэркаўка. Як мінімум да першай пастырскай візітацыі парафіі ў чэрвені 1930 году набажэнствы адбываліся яшчэ ў старой цэркаўцы. Візітаваў тады парафію біскуп Зыгмунт Лазінскі, з ім быў таксама біскуп Мікалай Чарнецкі. У хуткім часе пасьля гэтага а. Баляслаў распачаў будаўніцтва новай царквы. Фінансавая падтрымка з боку Пінскай біскупскай курыі была чыста сімвалічная, а найбольш істотная яна была з боку княгіні Магдалены Радзівіл. Былі прададзеныя таксама некалькі кароваў, што меліся ў парафіяльнай гаспадарцы. Дзякуючы гэтым высілкам паўстала цэркаўка. Калі ў чэрвені 1938 году візітаваў парафію біскуп Казімір Букраба, лацінская сьв. Імша і ўсходні малебен адпраўляліся ўжо ў гэтай новай царкве.

У апошнія гады перад II Сусьветнай вайной а. Баляслава пачалі ўсё больш непакоіць рэўматызм і боль у сэрцы, але гэта яшчэ не патрабавала сістэматычнага лячэньня.

Амаль адразу пасьля заняцьця Палесься Саветамі распачаўся перасьлед як Царквы, гэтак і саміх сьвятароў. Былі гэта нечаканыя рэвізіі пад выглядам пошуку зброі, падатковыя загады, якія сплаціць было немагчыма з прычыны іх значнай сумы, сталая прысутнасьць партыйных дзеячоў, а часта й афіцэраў НКВД, пасьля чаго нярэдка адбываліся допыты. У рэшце рэшт у лютым 1940 году было ўчынена ўламаньне ў царкву, былі скінуты іконы з іканастасу і са сьценаў, пры гэтым было пабіта шкло, былі зьнішчаныя падсьвечнікі і нават пашкоджаны алтар і даразахоўніца, у якой, на шчасьце, не было тады сьвятых Дароў. Праз два або тры дні пазьней прыйшоў «председатель сельсовета» разам з партыйнымі дзеячамі і, зьвяртаючыся да тых дзеячоў, выкрыкнуў: «Он сам это сделал для подрыва власти!»

Некалькі тыдняў пазьней у гумне сьвятара паставілімалацілку і ўчынілі малацьбу. Сабранае ў мяхі збожжа было пакінутае на таку. Наступным ранкам выявілася, што збожжа скралі, але на сьвежым, нядаўна выпалым, сьнезе засталіся выразныя сьляды накірунку вывазу збожжа. Мясцовыя сяляне хутка ўсё ж схапілі злодзеяў, якія пад пагрозамі прызналіся таксама, што яны ўчынілі пагром у царкве, але не з уласнае ініцыятывы. Адным з выканаўцаў як пагрому царквы, так і крадзяжу збожжа быў прыдуркаваты брат «председателя сельсовета».

Усе гэтыя перажываньні прывялі да таго, што стан здароўя (найперш сэрца) сьвятара значна пагоршыўся. Увесну 1940 году а. Пачопка знаходзіўся нават некалькі тыдняў у шпіталі ў Целяханах, пасьля чаго яму значна палепшала. На жаль, увосень 1940 году сардэчныя недамаганьні зноў сталі ўзрастаць. Калі ў лістападзе таго ж году а. Баляслава судзілі з прычыны таго, што не заплаціў падаткі, суддзя дазволіў яму адказваць на пытаньні седзячы. У


Айцец Баляслаў Пачопка ля ўніяцкай царквы ў Бабровічах (Івацэвіцкі р-н)

сьнежні 1940 году сьвятар зноў трапіў у шпіталь у Целяханах, а на другі дзень сьвятаў Божага Нараджэньня (26 сьнежня 1940 году) памёр. Пахаваны ён быў на каталіцкіх могілках у Целяханах, якія сёньня ўжо амаль цалкам зьнішчаныя.

У хуткім часе пасьля гэтага рэшта сям'і хутчэй уцякла, чым выехала на Віленшчыну, а падчас нямецкай акупацыі, якая наступіла затым, не было магчымасьці навязаць кантакт з жыхарамі Бабровічаў. І толькі ў 1946 годзе сям'я Пачопкаў — выпадкова — скантактавалася з кс. Тарнагурскім, які перад вайной і падчас акупацыі быў пробашчам каталіцкай парафіі ў Целяханах і які праводзіў а. Баляслава на вечны спачын. Ад яго мы даведаліся, што Бабровічы былі зьнішчаныя немцамі падчас карнай аперацыі. Вёска была пры гэтым спаленая, а засталася толькі цэркаўка, што стаяла трохі на ўскрайку. Незадоўга пасьля гэтага і цэркаўку нехта падпаліў.

Аўтару гэтых успамінаў удалося ў сьнежні 1989 году паехаць на некалькі гадзінаў у Целяханы, а на 15 хвілінаў нават у Бабровічы. Тады і даведаўся, што Вяда і Тупічыцы не існуюць, затое ажылі неяк Бабровічы, але ж цяпер колькасьць жыхароў там складае ўсяго 1/3 ад перадваеннай лічбы. Відавочна, у тых варунках, што былі пад савецкай уладай, парафія ажыць не магла.

*«Niedziela Podlaska», s.III.*
*Дадатак да «Niedziela», № 29 (239), 1999.*

*Пераклад з польскай І.Бараноўскага*

**Ад рэдакцыі:**

*Зусім нядаўна намаганьнямі старшыні Івацэвіцкай парафіі Жыровіцкай іконы Маці Божай сп. Вячаслава Гарчакова і былых парафіянаў а. Баляслава Пачопкі з Бабровічаў удалося адшукаць на каталіцкіх могілках у Целяханах дакладнае месца пахаваньня гэтага выдатнага беларускага ўніяцкага сьвятара.*

# Летнік "Дзеці Бога"

Адразу паабедзе, едзем паціху, каб не скаціцца з грэблі. Па абодва бакі дарогі — зарослыя заліўныя лугі Шчары. Мы едзем, загружаныя пад самы дах, на івацэвіцкае Белае возера, на летнік.

Знайсьці свабоднае месца ля возера, калі з неба дыхае сьпёка, а людзі якраз пачынаюць сьвяткаваць чарговыя «выхадныя» — гэта амаль цуд, аднак Бог усё ж дапамагае нам нават у самых дробных справах, і мы хутка трапляем на месца, нібы сьпецыяльна падрыхтаванае для нас. Тут ёсьць нават дах, зроблены з сасновых жэрдак і ядлоўца. Пазьней гэта будзе нашая капліца, цэнтр лагернага жыцьця.

Хутка з зарослае лясное паляны паўстае паважны лагер — шэсьць намётаў. Дзеткі прыязджаюць на наступны дзень, і летнік пачынае жыць. Як толькі наш галоўнакамандуючы — Алена Грынкевіч — разьмясьціла ўсіх удзельнікаў лагеру па намётах, наведзены такі-сякі парадак, усе пад апекаю дзядзькі Пашы (Паўла Ляхновіча) бягуць на возера, каб агледзець узьбярэжжа і знайсьці найлепшае месца для купаньня. Чуюцца радасныя воклічы з-над возера — трэба разумець, добрае месца знойдзена і адразу праверана.

Разам з Натальляй Асмалоўскай — нашым кухарам, Сяргеем Карнелюком — кіраўніком артыстычнае секцыі, я бяруся абіраць бульбу для абеду (гэта не такая простая справа, прынамсі, для мяне — абабраць бульбу для 20 чалавек). Вядома, пасьля купаньня ўсе маюць воўчы апетыт. Наш першы абед праходзіць у цішы. Кожны распраўляецца са сваёй порцыяй бульбы, салаты і смажанае кілбаскі ў такім тэмпе, як бы нічога ня еў з мінулага дня. Усе гэтак занятыя абедам, што нават не чуваць аніякіх размоваў. Адно толькі лыжкі аб талеркі шкрабаюць.

З першага дня быў устаноўлены парадак дня. Кожны дзень мы пачыналі з Літургіі, затым надыходзіў час для лесу, вады, сьмеху, беганьня — усяго таго, што можна рабіць на сьвежым паветры ў такое цудоўнае надвор'е, якое спадарожнічала нам амаль увесь час нашых вакацыяў. Пасьля нашай вясёлай мітусьні ўсе зьбіраліся на абед, якому папярэднічала малітва, як правіла — сьпяваная. Па абедзе — час цішы, каб «завязалася сальцо». Пасьляабедзенны час адводзіўся для звычайнага лагернага жыцьця: частка дапамагала гатаваць вячэру, частка «воднаплавальнікаў» зноў ішла на возера, але большасьць грамады ўсаджвалася ў шчыльнае кола на бярвёнах, што выконвалі ў часе летніка ролю лаваў. Тады мы вучыліся новым сьпевам, апавядалі адзін аднаму розныя гісторыі, а некаторыя з зацятымі тварамі развучвалі падставовыя гітарныя акорды (той, хто толькі пачынае граць на гітары, ведае, як моцна баляць тады яшчэ ненапрацаваныя падушачкі пальцаў).

Наступны пункт праграмы — вячэра. Яна зьнікала з талерак гэтаксама хутка, як і сьняданак ды абед. Калі ж увесь посуд быў вымыты, усе разам мы сядалі ля вогнішча і спадарыня Алена распачынала вячэрнія гамонкі. Яна чытала дзецям казкі, напісаныя на грунце Евангельля і старалася гэткім чынам наблізіць сваіх слухачоў да Ісуса ды паказаць Яго любоў да кожнага з нас. Кожная з прачытаных казак была нагодаю для таго, каб дзеці самыя пачыналі гаварыць, што яны думаюць пра Бога, як адчуваюць і разумеюць Боскую прысутнасьць ва ўласным жыцьці. У такія вечары Госпад станавіўся надзвычай блізкі, мы проста ўсім сэрцам адчувалі Ягоную любоў да нас.

«Пусьціце дзяцей і не перашкаджайце ім прыходзіць да Мяне; бо такім належыць Валадарства Нябеснае» (Мц 19, 14). Прыкладна такім парадкам ішло нашае жыцьцё, дні сплывалі хутка і радасна, кожны — нібы пярлінка, хоць і было некалькі падзеяў, якія не далі нам ўпасьці ў руціну.

Аднойчы дзядзька Паша наладзіў спаборніцтвы на трапнасьць стрэлу. Шмат хто з нас правяраў сваю здольнасьць да трапнага стрэлу ўпершыню, аднак, нягледзячы на гэта, сярод нас аказалася нямала някепскіх стральцоў. Найлепшы быў Лёнік Асмалоўскі, які ўсе свае стрэлы скіраваў у «дзясятку», гэта пры тым, што ён таксама ніколі раней не страляў.

Чарговай спартовай забавай быў бокс. Першынство тут трымаў Жэня Хоміч і Алеся. Жэня, вядома, хлопец, але адкуль у шчуплай і на першы погляд далікатнай Алесі столькі сілы і баявога запалу — для ўсіх было загадкай. Змагалася яна як сапраўдны баксёр.

Таксама і я прынесла ўсім удзельнікам лагеру незапраграмаваныя эмоцыі, а дакладней я ў пары з мухаю, якая пасярод ночы ўлезла ў маё вуха і не жадала выходзіць па-добраму. Усім: айцу Ігару, дзядзьку Пашу, Лене і Наташы — сардэчна дзякую за ратунак і пасьпяхова праведзеную «аперацыю па выдаленьні мухі» ў цяжкіх палявых умовах. Яшчэ я вельмі ўдзячна ўсім за малітвы за мяне, калі я была ў лекара. Напэўна, яшчэ ніхто, акрамя маіх бацькоў, не клапаціўся пра мяне так, як вы.



• Падчас сьв. Літургіі ў летніку.

Так мінулі шэсьць дзён цудоўнага адпачынку. Мы вярталіся дадому з новымі ўражаньнямі, новымі здольнасьцямі (напрыклад, Вераніка, Віка і Юля навучыліся плаваць, Жэня ўжо ўмее плаваць на сьпіне, а я навучылася есьці кашу з цукрам), але самае галоўнае — мы навучыліся жыць у групе, думаць найперш аб патрэбах іншых, а ўжо толькі потым пра сябе. Усе мы імкнуліся жыць на працягу гэтага часу так, каб усе маглі ўбачыць у нас сапраўдных дзяцей Божых. Думаю, у нас гэта атрымалася. І гэта ёсьць найвялікшае дасягненьне нашага летніку. А я шчасьлівая, што трапіла ў гэты летнік.

**Дамініка Дзякевіч**

## Катэдральны пляц



*Паважаны спадар І.Кандрацьеў!*

*Вялікі дзякуй вам за ўвагу, пашану і духоўны клопат пра мяне, малазнаёмага вам чалавека. На жаль, я ўжо ў такім становішчы, што надзеі Вашай [падзяліцца з чытачамі газеты «Царква» сваімі ўспамінамі пра ўніяцкага сьвятара з Таракані а. Даната Навіцкага – рэд.] я ўжо не змагу апраўдаць, бо стары і хворы. Усяго засталося мне толькі час ад часу наведваць касьцёл у суседняй вёсцы Безьдзеж і прысутнічаць разам з жонкай на багаслужбе.*

*Сам я грэка-каталік, жонка – рыма-каталічка. Гэта не перашкаджае нам маліцца разам.*

*Вялікі дзякуй Вам таксама за газету «Царква», кожны нумар якой чытаем разам з жонкай з вялікай цікавасьцю. Няхай Усявышні аддзячыць Вам за ўсё.*

**Пётр Мулярчык**

*в.Хомск Драгічыньскага р-ну*

## Аддацца дзеяньню Духа Сьвятога

⇨ Заканчэньне са с. 7.

Дзеці не хаваюць сваіх адносінаў да рэчаіснасьці. Яны паказваюць вынік тваёй працы амаль адразу, не трымаюць доўга ў сабе пачуцьці. Можа, нам, дарослым, трэба чамусьці ад іх павучыцца?

Так было й сёлета ў Кастамлотах. Галоўнай мэтай летніку было знаёмства дзяцей з літургічнай традыцыяй нашай Царквы. Біблійныя сустрэчы праводзіў з імі магістр Слава Стэцко, а катэхетычныя — семінарысты з Украіны. Акрамя таго, ня ўсе дзеці былі за мяжою, і гэта паездка пашырыла іх сьветапогляд. Я перакнаўся, што Госпад сабраў вакол Магілёўскай нядзельнай школкі сапраўды таленавітых дзетак. І немалая заслуга ў тым настаўнікаў — таленавітых, творчых, адданых. Адзін сьвятар сказаў мне калісьці, што хрысьціянін мусіць жыць «тут і зараз». Трэба аддацца дзеяньню Духа Сьвятога ў нас, каб мы сталіся інструментам у руках Божых, працуючы для Хрыста. Я думаю, так аддаліся «ў рукі» Духа Сьвятога настаўнікі Магілёўскай нядзельнай школкі, робячы сваю справу «тут і зараз».

**Аляксандр Шаўцоў**

*г.Горадня*

## ✉✉✉ Мы - дзеці Бога

*Я і мая сяброўка паехалі ў летнік на Белае возера пад Івацэвічамі. Калі мы ад'язджалі з дому, было пачуцьцё радасьці, што туды едзем. Даехалі мы хутка. Нас сустракалі сябры. Было шмат новых дзяцей.*

*Жылі мы ў намётах. Раніцай мы ўздымалі, а ўвечары ўрачыста спускалі наш сьцяг. Кожны дзень мы маліліся, сьпявалі песьні пра Бога. Таксама хадзілі мы лавіць рыбу, па грыбы, купаліся. А калі бачылі сьлед нейкага зьвера, то разам гадалі, які ж зьвер пакінуў гэты таямнічы сьлед. Яшчэ мы бачылі маленькага вужа. Наш выхавальнік узяў яго ў рукі і расказаў, як адрозьніць вужа ад гадзюкі.*

*Калі надышоў час разьвітаньня, мы паабяцалі дасылаць адзін аднаму лісты. Вельмі сумна было ад'язджаць, але мы яшчэ сустрэнемся!*

**Натальля Яраш, 11 гадоў**
*г. Слонім*





# Вакацыі з хрысьціянскімі скаўтамі

*Вернікі і сьвятары Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы прынялі ўдзел у двух скаўцкіх летніках, якія адбыліся ў гэтыя вакацыі. На возеры Сьвір з 2 па 8 ліпеня праходзіў летнік-семінар для скаўцкіх лідараў, які праводзілі французскія інструктары Цібо і Філіп з Федэрацыі еўрапейскага скаўтынгу. Дапамагалі ім сябры Задзіночаньня каталіцкага скаўтынгу «Завіша» з Польшчы.*

Хлопцы і дзяўчаты (было іх каля 20) атрымалі ня толькі тэарэтычныя веды аб прынцыпах і метадах педагогікі генерала Бадэн-Паўэла, заснавальніка скаўцкага руху, але й навучыліся жыць у лесе, гатаваць сабе ежу на вогнішчы і абыходзіцца без выгодаў цывілізацыі. Не бракавала ў летніку і гульняў, сьпеваў, а нават тэатральных міні-сьпектакляў. Усё гэта зьяўляецца важнай часткаю скаўцкага метаду выхаваньня.

Выкарыстаць на практыцы набытыя на Сьвіры веды лідары маглі ў летніку на Нарачанцы з 16 па 22 ліпеня. Тут сабралася каля 60 чалавек з розных гарадоў Беларусі, а таксама госьці з Тарнопаля — украінскія скаўты (пластуны). Было таксама некалькі ваўчкоў (самых маленькіх скаўтаў — ад 8 да 12 гадоў).

Шмат хлапцоў і дзяўчат прыехалі на такі летнік упершыню, хоць былі сярод удзельнікаў і вопытныя скаўты.

Боскую Літургію ў нарачанскім лесе служыў айцец Андрэй Абламейка, малітоўныя і катэхетычныя спатканьні для моладзі праводзілі семінарысты Андрэй Буйніч, Андрэй Крот і Яўген Усошын. Гэты летнік быў першы, які арганізавала Згуртаваньне каталіцкіх скаўтаў і гайдаў «Гайсак». Гэтая арганізацыя спалучае прынцыпы скаўтынгу з хрысьціянствам.

Беларускі скаўтынг мае ўжо свае традыцыі. Актыўна дзейнічала Згуртаваньне беларускіх скаўтаў на чужыне ў 40-х гадах мінулага стагоддзя. Пасьля адраджэньня незалежнасьці нашай дзяржавы паўстала адразу некалькі скаўцкіх арганізацыяў. Найбольш шматлікая і верная нацыянальным традыцыям Асацыяцыя беларускіх скаўтаў (АБС) ужо адзначыла сваё дзесяцігоддзе.

Ад пэўнага часу ў некаторых асяродках адбываюцца спробы арганізацыі ў Беларусі хрысьціянскага скаўтынгу і рэгістрацыі Згуртаваньня хрысьціянскіх скаўтаў і гайдаў «Гайсак». Дзейнічае гэты рух у розных краінах, асобныя арганізацыі аб'яднаныя ў Федэрацыю еўрапейскага скаўтынгу. Хрысьціянскі скаўтынг спрыяе выхаваньню творчай, актыўнай і дысцыплінаванай асобы, фармаваньню сапраўдных хрысьціянаў. Важным зьяўляецца штодзённая малітва, удзел у сьв. Літургіі, прыналежнасьць да Царквы. Ёсьць ужо хрысьціянскія скаўты ў Менску, Маладэчне, Барысаве, Жодзіне. Капэланам скаўтаў у нашай Царкве зьяўляецца айцец Андрэй Абламейка.

**Андрэй Крот**

# Скаўцкі хрысьціянскі летнік у Будславе

**12 - 17** жніўня ў мястэчку Будслаў (Мядзельскі раён) адбыўся летнік Аб'яднаньня Беларускіх Скаўтаў «Ля Будслаўскай Сьвятыні». У ім прымалі ўдзел скаўты з Вялейскай харугвы імя Якуба Ясінскага і скаўты Малога Палесься з Крупак, а таксама бард Андрэй Мельнікаў. Асноўнай мэтаю было ажыцьцяўленьне хрысьціянскага выхаваньня скаўтаў і іхны ўдзел у добраўпарадкаваньні тэрыторыі, прылеглай да Будслаўскага касьцёлу, вядомага сваім цудадзейным абразом Маці Божае Будслаўскай. Праграма летніка складалася з заняткаў па скаўтынгу, трэнінгаў па працы з групай, спартовых гульняў. Паводле словаў сьвятара айца Славаміра, скаўцкая праца мела добры вынік. Усім скаўтам вельмі спадабаліся і карысная праца, і добразычлівае стаўленьне тамтэйшага насельніцтва, і хрысьціянская размова з айцом Славамірам і клірыкамі, і ўдзел у працэсіі з нагоды сьвяткаваньня Ўшэсьця Марыі, і экскурсія па касьцёле. Па сканчэньні працы летніка сьвятары і самі скаўты выказалі жаданьне зрабіць падобныя летнікі ў Будславе традыцыйнымі.

**Віталь Паўлоўскі** *(BARC List News)*

Царква
*грэка-каталіцкая газета*
*№ 3 (30), 2001*
*Падпісны індэкс 63205*

**Адрас рэдакцыі:**
**вул.Дворнікава, 63**
**224014 г.Берасьце**
**Беларусь**
**Тэл./факс: (0162) 24-74-82**
**e-mail: bgkc_carkva@tut.by**

**Заснавальнік і выдавец:** Берасьцейская грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар Кандрацьеў
**Царкоўны асістэнт:** а. Роберт Крывіцкі, SOEL
**Рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 18 кастрычніка 2001 году, а 9-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 836), вул.Мініна, 23-106, 220014 г.Менск. **Замова №**
**Аб'ём** — 2,5 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 4300 асобнікаў.

***Наш разьліковы рахунак № 3015200210017 у Берасьцейскім філіяле № 2 ЗАТ "Абсалютбанк", МФО 150501242***

# РАЗАМ

газета грэка-каталіцкіх семінарыстаў № 3-2001

«...Евангельле на паліцы пакрываецца пылам, замест хрысьціянскай праграмы лепей паглядзець серыял, а велізарныя цэрквы застаюцца пустыя. Чаму?»

*Глядзі с. 3*



# Абвяшчаць Хрыста

Пытаньні, якія хвалююць многіх,— як абвяшчаць Хрыста сёньня, як гэта рабіць нам: семінарыстам — вернікам, грэка-католікам? І як гэта рабіць у Беларусі?

Нашая краіна — край з тысячагадовою хрысьціянскаю культураю. На ўласным вопыце ведаем, наколькі прасякнута хрысьціянствам жыцьцё нашых блізкіх, знаёмых, суседзяў нават тады, калі яны не ходзяць ні ў якую Царкву. Але, з другога боку, гэтая рэлігійнасьць прымае часам такія дзіўныя формы, што цяжка пры гэтым казаць пра хрысьціянства. Дык чым жа будзе тады наша абвяшчэньне Хрыста — напамінам таго, што ўжо забылася, ці чымсьці зусім новым?

Новы час ставіць перад намі зусім іншыя патрабаваньні чым тыя, з якімі сутыкаліся нашыя продкі ў X стагоддзі, у часы Берасьцейскай Уніі ці нават напачатку XX стагоддзя. Сучасны сьвет патрабуе евангелізацыі культуры, а не вяртаньня да сярэднявечча і схематаў схаластычнага мысьленьня. Пры гэтым абавязкова мусім памятаць пра сваю тоеснасьць (пра гэта мы разважалі ў папярэднім нумары). Мы ёсьць і будзем заставацца грэка-католікамі, спадкаемцамі сьвятых Кірылы Тураўскага, Еўфрасіньні Полацкай, сьвятога мучаніка Язафата ды іншых. І хоць час зьмяняецца, Хрыстос учора, сёньня і на векі той самы (пар. Габ 13, 8 ).

Евангелізаваць — што гэта значыць для нас, семінарыстаў? Мы знаходзімся часьцей сярод тых людзей, якія чулі пра Хрыста вельмі шмат, для якіх часам нават вера робіцца руцінаю. Мінулыя вакацыі, аднак, паказалі, што нашыя веды і духоўны вопыт (якімі мізэрнымі яны б ні былі) патрэбныя людзям. Нам ёсьць чым падзяліцца! З іншага боку, людзі сьвецкія часта былі для нас прыкладам трываньня ў навуцы Хрыста і мужнага вызнаваньня сваёй веры. Таму евангелізацыя будзе заўсёды працэсам двухбаковым, тым, што неабходна рабіць РАЗАМ!

**Рэдакцыя**

## БАГАСЛУЖЭНЬНЕ І СУПОЛЬНАСЬЦЬ

Звычайна, калі чуеш слова “місія”, то ўяўляеш сабе хрысьціянскага прапаведніка, які нясе Евангельле нейкаму племені ў Афрыцы альбо Паўднёвай Амерыцы. Але калі разглядаць пытаньне місіі ў Беларусі, то размова тут ідзе аб пропаведзі ў народзе, які належыць да хрысьціянскай цывілізацыі. Большасьць жыхароў Беларусі ахрышчана. Таму абвяшчэньне Евангельля ў нашай краіне можна назваць таксама новай евангелізацыяй, але гэта хутчэй праблема тэрміналогіі. Пытаньне місіі можна разглядаць з розных бакоў. Я хачу закрануць праблему сувязі місіі і багаслужэньня Царквы.

*(Працяг на с.2)*

# БАГАСЛУЖЭНЬНЕ І СУПОЛЬНАСЬЦЬ

*(Працяг, пачатак на с.1)*

Старажытнае паданьне гаворыць пра тое, што вырашальным для прыняцьця Кіеўскай Русьсю хрысьціянства з Візантыі стала захапленьне рускіх паслоў прыгажосьцю багаслужэньня ў храме Сьвятой Сафіі. І мы — сучасныя хрысьціяне — часта намагаемся навяртаць людзей падобна мудрым грэкам X стагоддзя. Адразу сьпяшаемся запрасіць чалавека, які яшчэ, магчыма, толькі цікавіцца хрысьціянствам, да Царквы на багаслужэньне. Але вельмі часта для патэнцыйных неафітаў тая ж Вячэрня пры ўсёй сваёй прыгажосьці мала што гаворыць.







І сам па сабе пераклад яе тэкстаў на беларускую мову гэтай праблемы не вырашае. Хтосьці скажа: "Усё проста: багаслужэньні неабходна спрасьціць, скараціць, каб яны былі больш даступныя сучаснаму чалавеку". Сапраўды, тэксты Актоіха, Трыёдзей і Мінэй складаныя. Але іх глыбіня зьяўляецца заклікам да паглыбленьня малітвы, духоўнага жыцьця для людзей у якойсьці ступені ўцаркоўленых. Адмовіўшыся дзеля патрэбаў місіі ад гэтых багаслужэньняў, мы абкрадзем тых вернікаў, якія ўжо маюць пэўны досьвед малітвы. Урэшце рэшт, перыяд неафіцтва для новага члена Царквы закончыцца, і ён будзе імкнуцца да больш глыбокай малітвы. Таму, на маю думку, проста скараціць багаслужэньне — ня выхад.

Літургічная традыцыя нашай Царквы разьлічаная на людзей ужо ўцаркоўленых. Таму яна ня носіць місіянерскага характару ў вузкім значэньні — як навяртаньня ў хрысьціянскую веру атэістаў альбо нехрысьціян. Наша бяда ў тым, што ў Царкве напрацягу стагоддзяў амаль што атрафіравалася зьвяно, якое было прамежным на шляху да літургіі. У старажытнай Царкве яно існавала ў форме катэхуменату. Але ў сучаснай Беларусі часта да Царквы прыходзяць людзі, якія былі ахрышчаныя. Казаць пра катэхуменат (ці інакш школу пакліканых) для такіх людзей не зусім правільна, таму лепш назваць гэты працэс уцаркоўленьнем. Глыбіня нашых багаслужэньняў патрабуе пэўных ведаў Бібліі, багаслоўя і сымболікі літургіі. Гэтыя веды мусяць даць неафіту інстытуцыі навучаньня ў Царкве – катэхуменат і ўцаркоўленьне.

Неафіт прыходзіць на багаслужэньне, каб атрымаць Божую ласку не толькі для ўласнага збаўленьня. Ідэя індывідуальнага збаўленьня чужародная для хрысьціянства. Царква зьяўляецца супольнасьцю людзей у Хрысьце. У кнізе Дзеяньняў сьв. Апосталаў гаворыцца пра новаахрышчаных: "І трывалі ў навуцы апостальскай, у супольнасьці і ламаньні хлеба, ды ў малітвах"(Дз 2, 42). Па-царкоўнаславянску слову "супольнасьць" адпавядае слова "общение". І ў жыцьці нашых парафіяў павінна быць тры моманты: "общение", навука і літургія. А на шляху чалавека да літургіі павінны быць два першыя з пералічаных момантаў. Наладзіць справу навучаньня нялёгка. Яшчэ больш складанай зьяўляецца праблема "общения" ў парафіі для яе новага альбо патэнцыйнага члена. Гэта перастае быць праблемай, калі парафія зьяўляецца ня проста "приходом", але супольнасьцю. Калі ж не, то ў хрысьціяніна можа паўстаць пытаньне: "Куды мне клікаць, напрыклад, майго сябра які шукае Хрыста? У "супольнасьць", дзе кожны збаўляецца сам па сабе?" Таму відавочна, што без супольнасьці місія ня будзе пасьпяховаю.

**Андрэй Латыш**

# СЕМІНАРЫЯ ДЛЯ ВЕРНІКАЎ

Ня можна ўявіць хрысьціянства бяз словаў "місія" і "евангелізацыя". Яны цесна зьвязаныя з пакліканьнем кожнага з нас. Не сумняваемся, што місія і евангелізацыя актуальныя і ў наш час, цяпер, тут, у Беларусі, але як?

Царква так бачыць і фармулюе праблемы нашага часу ў сваіх дакументах: "Ёсьць балючым фактам тое, што ў вялікай колькасьці месцаў і асяродкаў жывуць людзі, якія хоць і чулі пра Ісуса Хрыста, але здаецца, што прымаюць Яго навуку больш як збор агульных этычных каштоўнасьцяў, чым як асабістую злучнасьць з Ім у штодзённым жыцьці. <...> У шматлікіх выпадках роль хрысьціянскай веры зводзіцца да галіны культуры і зачыняецца ў сферы прыватнасьці, без ніякага ўплыву на грамадзкае жыцьцё асобаў і народаў" *(«Священник – учитель слова, служитель таинств и наставник общины верующих – в приближении третьего тысячелетия христианства»)*. Праблема ясная, але што нам рабіць для яе вырашэньня? Гэты артыкул — спроба хоць часткова адказаць на пастаўленае пытаньне.

Пра тое, што такое евангелізацыя, я даведаўся ня толькі з кніг. Калі толькі зьвярнуўся да Бога, у неафіцкім энтузіязьме спрабаваў скарыстаць кожную магчымасьць, каб "зьевангелізаваць" новага чалавека. Прайшло некалькі гадоў, у мяне больш вопыту і больш ведаў, я ўжо не хаджу, як тады, па кватэрах і не кажу: "Бог Цябе любіць!" І гэта не таму, што цяпер у мяне меней запалу, а таму, што я зразумеў: *ня толькі гэта* евангелізацыя! Такі вось "вулічны" спосаб наяртаньня, дарэчы, самы неэфектыўны.

Аднак, здаецца мне, што ў дачыненьні да Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы пытаньне "як евангелізаваць?" гучыць больш агульна: "што рабіць?" А менавіта: што рабіць з тымі людзьмі, *якія ўжо ёсьць* у нашай Царкве, і куды весьці тых людзей, *якія яшчэ толькі хочуць прыйсьці* ў нашую Царкву. Адзін з нашых сьвятароў, аднойчы сустрэўшы мяне, пасьміхнуўся і загадкава сказаў: "А, семінарыст! Эх, дзе б нам узяць семінарыю, з якой бы выпускалі простых вернікаў?" Сапраўды, ня цяжка зьевангелізаваць "статак наркаманаў", але цяжка іх у першую чаргу духоўна "пракарміць". І вось тут парадокс: у нас не хапае сьвятароў ды адначасова ў нас не хапае простых вернікаў!

Бачу з гэтага адзінае выйсьце. Сёньняшняя сітуацыя (а праз яе і Бог), як мне здаецца, кліча нас быць ня проста добрымі хрысьціянамі, але актыўна працаваць для Царквы. Калі ты будаўнік — будуй цэрквы, тады будзе дзе служыць Службу Божую і куды прывесьці "статак наркаманаў". Калі ты юрыст — дапамагай у працы з царкоўнымі дакументамі, тады ніхто ня зможа шматкроць адмаўляць у рэгістрацыі парафіі і вяртаць дакументы з-за розных дробязяў. Калі ты малады і здольны да навукі, але ня ведаеш, што рабіць,— ідзі і здабывай каталіцкую адукацыю, тады хутчэй паўстануць у Беларусі каталіцкія ўніверсітэты. Калі ты праграміст — рабі нашыя сайты, тады нам лягчэй будзе ісьці разам да людзей. Ты маеш дар малітвы — маліся, каб мы самі паверылі ў тое, што ў Бога няма нічога немагчымага.

Ці гэта ўтопія? Так, гэта ўтопія: на гэтым шляху няма грошаў, кар'еры... Але яна патрабуе ня болей высілкаў, чым патрабавалася ад першых хрысьціянаў, да таго ж будзем рабіць гэта "ня сілай і моцай нашай, а моцай Духа ад Бога".

Вось гэта і будзе "семінарыя вернікаў". Да яе стварэньня мы мусім імкнуцца.

Хто ж пойдзе ў яе? Зноў вяртаемся да таго, з чаго пачыналі: той, чыя вера не "зачыняецца ў сферы прыватнасьці, без ніякага ўплыву на грамадзкае жыцьцё асобаў і народаў".

У гэтым наша місія і наша евангелізацыя — зрабіць сябе! І даруйце, што не сказаў нічога новага.

**Андрэй Буйніч**



# ПАДКАЗАЦЬ, ПАКАЗАЦЬ, АБ'ЯВІЦЬ...

Гаворачы пра сучасную сітуацыю ў Беларусі, варта было б напачатку разьмежаваць паняцьці «місія» і «евангелізацыя». Евангелізацыя — гэта абвяшчэньне Добрай Навіны тым, хто пра яе ніколі ня чуў. Місія будзе паняцьцем больш шырокім. Гэта значыць, што місіяй можна назваць і евангелізацыю, і таксама іншыя формы хрысьціянскай пропаведзі: тым, хто не належыць да Царквы, а таксама і тым членам Царквы, якія не практыкуюць сваёй веры.

У Беларусі час евангелізацыі мінуў. Пераважная большасьць нашых суайчыньнікаў ужо сутыкалася з хрысьціянствам: мае ў хаце Евангельле, можа паслухаць па радыё ці паглядзець па тэлебачаньні хрысьціянскую перадачу, ведае, дзе знаходзіцца бліжэйшая царква, а праз хрост нават належыць да якой-небудзь супольнасьці хрысьціянаў. Але патрэба місіі сярод гэтых людзей застаецца. Евангельле на паліцы пакрываецца пылам, замест хрысьціянскай праграмы лепей паглядзець серыял, а велізарныя цэрквы застаюцца пустыя. Чаму?

Пэўна, выбар хрысьціянскага шляху — заўсёды вельмі асабісты. Ніхто ня можа прымусіць іншага прыняць Хрыста. Але задача хрысьціяніна — падказаць, паказаць, аб'явіць гэты шлях. Як? У першую чаргу, праз прыклад уласнага жыцьця. Яно мусіць быць увасабленьнем таго, чаму мы вучым. «Не было б паганаў, калі б хрысьціяне не жылі як пагане»,— напісаў Ян Залатавусны. Таксама і ў нашых учынках і словах іншыя мусяць бачыць Хрыста. Любоў, супакой і радасьць — гэта тое, чаго так бракуе сучаснаму сьвету, і тое, што так шчодра дае нам Госпад.

*(Працяг на с. 4)*

# НАШ ЧАС

Умовы, у якіх прыходзіцца існаваць сёньня нашай Царкве, а значыць і ўмовы, у якіх прыходзіцца ўсім нам вонкава выяўляць сваю веру, уносяць пэўныя карэктывы ў абвяшчэньне Евангельля, але зусім не пазбаўляюць нас абавязку гэта рабіць. Евангелізацыя была галоўным заданьнем, з якім Хрыстос разаслаў апосталаў па сьвеце. Зьяўляецца яна і галоўным заданьнем апосталаў нашых часоў – усіх хрысьціянаў.

Евангелізаваць – гэта ня значыць толькі выходзіць на вуліцы. Больш плённым, хоць і больш цяжкім спосабам абвяшчэньня Добрай Навіны зьяўляецца сьведчаньне нашым штодзённым жыцьцём: у сям'і, на працы, на вучобе, сваім дзецям, суседзям, сябрам, калегам і нават непрыяцелям. Словы навучаюць, але добры прыклад схіляе да насьледаваньня.

Недастаткова толькі дапамагчы чалавеку навярнуцца, знайсьці шлях да Хрыста, прыйсьці ў Царкву. Чалавек становіцца хрысьціянінам тады, калі асабіста сустрэне Бога, але можа заставацца хрысьціянінам толькі ў супольнасьці вернікаў. І ў гэтым асаблівы абавязак тых, хто ўжо знаходзіцца ў Царкве. Ці зможа чалавек, які прыняў Добрую Навіну, знайсьці доказ яе слушнасьці, умацаваць сваю веру, прыйшоўшы ў нашую парафію, на нашу літургію, спатканьне? І гэта другое немалаважнае заданьне для ўсіх нас – каб нашыя парафіі былі сапраўднымі супольнасьцямі людзей, што аб'яднаныя вакол асобы Ісуса Хрыста. У супольнасьці, у якой ня будзе любові, нішто ня зможа затрымаць чалавека, які сапраўды шукае Бога, а не адно беларускую мову, прыгожы сьпеў ці містыку. А значыць, нашае галоўнае заданьне – сьведчаньне любові, жыцьцё любоўю і дзеля любові.

А што да ўмоваў, у якіх мы сёньня жывем, дык гісторыя сьведчыць, што самыя плённыя для Царквы былі часы ганеньняў, уціску і перасьледаваньняў. І наадварот, гады супакою і дабрабыту часта суправаджаліся вялікім крызісам духоўнасьці. Можа быць, цяперашні наш стан – гэта наш шанец, наш час для збаўленьня, час сьведчаньня і навяртаньня.

**Алесь Трафіменка**

# ПАДКАЗАЦЬ, ПАКАЗАЦЬ, АБ'ЯВІЦЬ...

*(Працяг, пачатак на с. 3)*

Асабліва актуальны гэты спосаб місіі для Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Часта мне даводзіцца назіраць пэўны «тэхналагічны» падыход абвяшчэньня Хрыста. Мусім зрабіць тое ці іншае — паставіць лаўкі, каб было дзе сесьці, прыбраць іканастас, каб людзі ўсё бачылі, і тады нашыя цэрквы будуць поўныя. Прапаноўваюцца таксама і такія формы: скарачэньне багаслужэньняў і іх тлумачэньне на беларускую мову. Але такога роду рэчы, як, зрэшты, і традыцыйнае прытрымліваньне абраду, будуць спрыяць місіі толькі ў тым выпадку, калі чалавек з вуліцы ўбачыць у нашых парафіях сапраўдную хрысьціянскую любоў і прагу сьвятасьці, якой не можа даць сьвет. Калі ж гэтага не будзе, замест нават «найкамфортнейшай» царквы ён выбярэ мяккую канапу і ўласны тэлевізар.



Місія ў сьвеце мусіць спалучацца з місіяй унутры нашых парафіяў. Стараючыся прывесьці да Хрыста іншых, мы самі мусім яшчэ больш набліжацца да Яго. Тады нашая сьвятасьць будзе найлепшым сродкам місіі. І чым больш мы будзем умацоўвацца ў ёй, тым больш яскравым і вымоўным будзе наша сьведчаньне для сьвету. Разам з тым існуе небясьпека, што ў сваёй дарозе да сьвятасьці мы ператворымся ў секту, закрытую для «непасьвячаных». Таму варта памятаць, што Госпад кліча да збаўленьня ўсіх людзей, незалежна ад паходжаньня, палітычных поглядаў, зацікаўленьняў, мінулага. Таксама і наша Царква мусіць стацца домам Айца для ўсіх.

**Андрэй Крот**

**РАЗАМ № 3-2001**

дадатак да газеты «Царква», № 3 (30)

**Над нумарам працавалі:**
Андрэй Крот (akrot@poczta.onet.pl);
Алесь Трафіменка (ales5@poczta.fm);
Андрэй Буйніч (niepismienny@mailcity.com)

**Пішыце нам:**
al.Andrej Krot (al.Andrej Bujnicz)
W.S.D., ul.Kościelna 10,
17-312, Drohiczyn, POLSKA